ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 41 (2599)

15 кастрычніка 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 2000 рублёў.

## РЭПАТРЫЯЦЫЯ

# ВЯРТАННЕ ДАДОМУ

У КАНЦЫ Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Германіі, яе саюзнікаў знаходзілася 10 181 000 грамадзян СССР, у тым ліку 5 662 000 мірнага насельніцтва і 4 552 000 ваеннапалонных. З Беларусі немцы вывезлі амаль 400 тысяч чалавек.

28 жніўня 1944 года Дзяржаўны Камітэт Абароны прыняў першую афіцыйную пастанову па пытаннях рэпатрыяцыі: "Аб арганізацыі прыёму савецкіх грамадзян, што вяртаюцца на радзіму, якія былі прымусова вывезены немцамі, а таксама якія па розных прычынах апынуліся за памежнай лініяй паміж СССР і Польшчай". Для яе выканання СНК БССР 29 жніўня 1944 года таксама прыняў адпаведную пастанову.

З уступленнем савецкіх войск на тэрыторыю Германіі пачалося вызваленне савецкіх людзей з нямецкай няволі і вяртанне іх праз франтавыя і пагранічныя фільтрацыйныя лагеры і прыёмна-размеркавальныя пункты. Для хутчэйшага вяртання вызваленых грамадзян дадому ў кастрычніку 1944 года пры Саўнаркоме СССР было створана Цэнтральнае ўпраўленне па справах рэпатрыяцыі на чале з упаўнаважаным СНК СССР генералам П. Голікавым. Аддзелы рэпатрыяцыі былі заснаваны пры СНК РСФСР, Украіны, Беларусі, Малдавіі, Латвіі, Літвы і Эстоніі, на ўсіх франтах, пры выканкомах мясцовых Саветаў, тэрыторыі якіх падвергліся варожай акупацыі. Такі аддзел пры СНК БССР (у 1950 годзе рэарганізаваны ва Упраўленне перасялення і рэпатрыяцыі пры Савеце Міністраў БССР) з верасня 1944 па сакавік 1953 года ўзначальваў І. Баркоў.

Ужо ў верасні 1944 года ў Брэсце, Гродне, Ваўкавыску, Высока-Літоўску і Пружанах былі створаны праверачна-фільтрацыйныя пункты, што спачатку забяспечвала прыём і часовае ўтрыманне на гэтых пунктах грамадзян, якія вярталіся з Германіі. Пазней, у першай палове 1945 года, у БССР былі створаны ў кожнай вобласці аддзелы па рэпатрыяцыі і прыёмна-размеркавальныя пункты. Апрача гэтага, для абслугоўвання харчаваннем транзітных рэпатрыянтаў на вузлавых станцыях Орша і Лунінец былі адкрыты прадуктовыя пункты. Да ліпеня 1945 года на тэрыторыі БССР былі адкрыты і функцыяніравалі 11 зборна-перасыльных пунктаў на 110 000 чалавек: у Брэсце (2), на станцыі Бярозa-Картузская (2), на станцыі Бронная гара (1), у Гродне (3), Ваўкавыску (1), на станцыі Масты (1) і на станцыі Лясная (1).

У рабоце па вяртанню савецкіх грамадзян на радзіму прымалі ўдзел і дзеючыя франты. У дырэктыве Вярхоўнага Камандавання Чырвонай Арміі камандуючым 1 і 2 Беларускімі, 1, 2, 3, 4 Украінскімі франтамі ад 1 мая 1945 года гаворыцца: "Ваенным Саветам франтоў сфарміраваць у тылавых раёнах лагеры для размяшчэння і ўтрымання былых ваеннапалонных і савецкіх грамадзян, якія рэпатрыіруюцца, на 10 000 чалавек кожны. Усяго сфарміраваць на 2-м Беларускім фронце — 15, на 1-м Беларускім — 30, на 1-м Украінскім — 30, на 4-м Украінскім фронце — 5, на 2-м Украінскім — 10, на 3-м Украінскім фронце — 10 лагераў...

Праверку былых ваеннаслужачых Чырвонай Арміі — усклацці на органы контрразведкі "Смерш", цывільных асоб — на камісіі НКУС, НКДБ, "Смерш".
І. Сталін".

На зборна-размеркавальных пунктах у Ваўкавыску і Гродне работа пра прыёму і адпраўцы рэпатрыіруемых праходзіла беспераблойна, а вось на брэсцкіх праверачна-фільтрацыйных і зборна-размеркавальных пунктах справы ішлі складаней. Штодзённа ў Брэст прыбывала па 1,5 тысячы, а ў іншыя дні і да 3 тысяч рэпатрыіруемых. І яны затрымліваліся на пунктах па некалькі дзён. Гэта выклікала цяжкасці і ў забеспячэнні хлебам, і ў адпраўцы да месца сталага жыхарства з-за недахопу вагонаў і г. д.

СНК БССР накіраваў у Брэст групу рэспубліканскіх кіруючых работнікаў на чале з намеснікам Старшыні СНК БССР К. Кісялёвым для прыняцця мер па ліквідацыі недахопаў, якія мелі месца ў рабоце брэсцкіх праверачных і перасыльных пунктаў. Дапамога групы з Мінска дазволіла неўзабаве рэзка палепшыць работу пунктаў. Звыш 10 тысяч рэпатрыіраваных, якія знаходзіліся на пункце, былі адпраўлены да месцаў жыхарства.

Савецкі ўрад быў зацікаўлены ў хутчэйшай і больш поўнай рэпатрыяцыі сваіх грамадзян не толькі з эканамічных прычын. Ставілася мэта стварыць міжнародны палітыка-ідэалагічны рэзананс на карысць СССР як гуманнай дэмакратычнай дзяржавы. 22 мая 1945 года прадстаўнікі ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі падпісалі прапанаваны савецкім урадам дакумент, які замацоўваў прынцыпы абавязковай рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян. У савецкай зоне акупацыі ў выніку агітацыі рэпатрыяцыя ажыццяўлялася паспяхова. У лагерах для бежанцаў і перамешчаных асоб у зонах акупацыі

(Заканчэнне на 4-й стар.).

*"ПАН ТАДЭВУШ" У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МУЗЕІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ*

# ШЛЯХ ДА МІЦКЕВІЧА

Адам Міцкевіч і яго творчасць — культавыя для палякаў, нацыянальнай рысай якіх ёсць абвостранае пачуццё патрыятызму. Вайда з Альбрыхскім маюць намер зрабіць кінаверсію "Пана Тадэвуша". Напэўна, гэта будзе цудоўна. Але пакрысе і ўсё больш упэўнена беларусы ўсведамляюць сваю крэўную і духоўную сувязь з Геніем паэзіі. На ўсё жыццё ён быў заканы ў свой край (наш край), яго людзей, песні, паданні, казкі... Яго "Пану Тадэвушу" наогул можна прысвяціць культуралагічнае даследаванне кшталту "Беларусь пачатку XIX стагоддзя ў люстэрку паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Нашы суайчыннікі ўжо пачалі чытаць і асэнсоўваць паэму менавіта так.

Юбілей Міцкевіча адзначаецца на Беларусі досыць выразнымі праявамі. У Музеі гісторыі беларускай літаратуры — выстава з гэтае нагоды, у Нацыянальным мастацкім музеі — таксама выстава сучасных мастацтваў "Шлях да Міцкевіча", у Нацыянальнай бібліятэцы экспанаваліся творы паэта з бібліятэчных фондаў і выдатная па сваёй рэпрэзентатыўнасці перасоўная выстава з Польшчы, Скарынаўскі цэнтр падзіў навуковую канферэнцыю, у Завоссі адкрыўся музей-сядзіба, у Навагрудку — пашырэнне экспазіцыі. Нацыянальны друк адгукнуўся шэрагам выданняў, кожнае з якіх заслугоўвае апладысментаў. Каралём сярод іх выглядае трохмоўны фаліянт паэмы "Пан Тадэвуш", упрыгожаны элегантнымі акварэлямі Васіля Шаранговіча, майстра, які шмат што адчуў і пачуў у радках паэмы. Прадмову да гэтага выдання чытаеш ад першага да



Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір ГІЛЕП прадстаўляе юбілейнае выданне.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## БЛАКІТНАЯ КРЫНІЦА



**Блакітная крыніца — так называюць у Слаўгарадзе крыніцу святой вады, якая, акрамя лекавых уласцівасцей, па свайму знешняму выгляду сапраўды блакітная. З незабыўных часоў б'е гэтая крыніца каля вёскі Клінь, а вада ў ёй такая чыстая і багатая серабром, што, знаходзячыся ў ёмістасці да паўгода, не закісае. Жыхары гэтай невялікай вёсачкі, праз якую крынічная вада працякае ў Сож, нават не капалі ў сябе калодзеж, а карысталіся вадой з крыніцы. Мелі раз на год невялікія праблемы з водазабеспячэннем: у жнівні, у дзень свята Макавей, калі сюды збіраюцца тысячы паломнікаў з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кіева і іншых гарадоў, каб акунуцца ў святой вадзіцы. Тады ў Клінах ваду нарыхтоўвалі на пару дзён у запас. Цяпер тут нават праводзяць абрады хрышчэння, а мясцовы святчэннік для правядзення рытуалаў пры падтрымцы прадпрыемстваў раёна пабудаваў невялікую капліцу.**

**НА ЗДЫМКУ: блакітная крыніца са святой вадой не замярзае зімой і не награецца летам.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## БЕЛАРУСЬ ДАПАМОЖА ЮГАСЛАВІІ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, даючы інтэрв'ю журналістам пасля мерапрыемстваў па закладцы першага каменя ў будаўніцтве жылога комплексу "Алімпійскі", закрануў міжнародныя падзеі.

Адносна Косава ён заявіў: "Я абсалютна падтрымліваю расійскую пазіцыю ў гэтым плане. Скажу нават больш, у Беларусі пазіцыі яшчэ больш жорсткія. Мы акажам Югаславіі ўсялякую падтрымку і дапамогу, якая будзе патрэбна. Без усякіх умоў, у тым ліку і ваенную. Акрамя пасылкі нашых хлопцаў за межы краіны, што забараняе Канстытуцыя. Югаславы могуць на нас разлічваць".

ПЕРШЫ КАМЕНЬ

## «АЛІМПІЙСКАЯ ВЁСКА»



У раёне праспекта Машэрава ў сталіцы Беларусі будзе рэалізаваны праект "Алімпійскай вёскі".

У жылы комплекс для спартсменаў і спецыялістаў, перш за ўсё высокакваліфікаваных трэнераў, увойдуць спачатку 4 дзевяціпавярхоўкі на 276 кватэр.

Заслужаныя спартсмены будуць мець магчымасць атрымаць жыллё на льготных умовах. Так, чэмпіёну Еўропы з поўнага кошту кватэры палепшанай планіроўкі — да 6 жылых пакояў — будзе скідка 20 працэнтаў, чэмпіёну свету — 50, а чэмпіёну Алімпіяды жыллё дадуць бясплатна.

6 кастрычніка на будаўнічай пляцоўцы будучага жылога комплексу Прэзідэнт А. Лукашэнка заклаў першы камень у будаўніцтва першага дома. Адначасова ў падмурак была закладзена і памятная манета Алімпійскага камітэта з чыстага золата вагой 7,8 грама. Прэзідэнту яе перадалі вядомыя спартсмены — біятланіст Аляксандр Папоў і гімнастка Яўгенія Паўліна.

НА ЗДЫМКУ: у час цырымоніі закладкі жылога комплексу "Алімпійскі".

СУСТРЭЧА Ў ВАШЫНГТОНЕ

## ДЫЯЛОГ З МВФ

Дагаворанасць аб актывізацыі супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Міжнародным валютным фондам была дасягнута ў ходзе перагавораў урадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь з кіраўніцтвам МВФ, што адбыліся ў Вашынгтоне.

Як стала вядома, у складзе беларускай дэлегацыі, якую ўзначальвае віцэ-прэм'ер рэспублікі Генадзь Навіцкі, — старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, міністр эканомікі Уладзімір Шымаў і міністр фінансаў Мікалай Корбут.

У ходзе перагавораў у Сусветным банку, якія таксама праходзілі ў Вашынгтоне, абмеркаваны пытанні стратэгіі дзейнасці банка ў Беларусі. Мяркуецца, што канкрэтная праграма супрацоўніцтва гэтага міжнароднага фінансавага органа з нашай дзяржавай будзе прадстаўлена Савету дырэктараў Сусветнага банка да канца 1998 года.

У СТАЛІЦЫ



Пасля рэканструкцыі зноў прыняў пакупнікоў магазін "Акадэмкніга" ў Мінску. Тут шырокі выбар кніг па ўсіх галінах навукі, даведачная літаратура, слоўнікі. Сучасны інтэр'ер і зручныя вітрыны дапамагаюць пакупнікам лёгка арыентавацца ў гэтым моры ведаў.

НА ЗДЫМКУ: у гандлёвай зале магазіна "Акадэмкніга".

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.

ГАЎДЭАМУС



Студэнты Беларускага універсітэта культуры ўрачыста адзначылі ў Цэнтральным доме афіцэраў традыцыйную цырымонію "інаўгурацыі" новага навучальнага года.

НА ЗДЫМКУ: пасвячэнне ў студэнты першакурснікаў.

Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.

ПАМЯЦЬ

## ПЕРШАМУ ГЕРОЮ БЕЛАРУСІ

Бронзавы помнік-бюст лётчыку Уладзіміру Карвату, які разбіўся на сваім самалёце пад Баранавічамі ў 1996 годзе, будзе пастаўлены на бульвары Касманаўтаў у Брэсце. Праект помніка быў нядаўна зацверджаны Брэсцкім аблвыканкомам.

Указам Прэзідэнта краіны ў лістападзе 1996 года Уладзіміру Карвату за мужнасць і гераізм, праяўленыя пры прадухіленні падзення самалёта на густанаселены раён, пасмяротна было прысвоена званне Герой Беларусі. І вось цяпер памяць лётчыка будзе ўвекавечана ў метале на яго малой радзіме.

АКЦЫІ

## ДАБРАЧЫННАЯ АПТЭКА

2 кастрычніка, адразу пасля Дня пажылых людзей і напярэдадні Дня аб'яднання Германіі, Евангелісцкая царква ФРГ правяла беспрэцэдэнтную акцыю. На базе Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне" пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Беларусі і пасольства Германіі была адкрыта першая дабрачынная аптэка для вязняў канцэнтрацыйных лагераў і гета. Усе лякарствы і медыкаменты тут бясплатныя.

Гэта толькі першы этап дабрачыннай акцыі. У будучыні плануецца адкрыццё аналагічных аптэк ва ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі. А непасрэдна ў Мінску ў будынку фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне" з'явяцца стаматалагічны і зубапратэзны кабінеты, а таксама служба па вырабу акуляраў.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## А НАМ НЕ СТРАШНА

Захворванне на рак малочнай залозы сярод жаночага насельніцтва Беларусі з года ў год узрастае. Толькі з 1982 па 1996 год гэтыя паказчыкі ўзраслі з 22,2 да 49 на 100 тысяч прадстаўніц цудоўнага полу.

Тлумачыцца рост гэтага захворвання, у першую чаргу, неспрыяльнымі экалагічнымі ўмовамі, развіццём прамысловых раёнаў. Так, напрыклад, у Мінску на кожныя 100 тысяч жанчын прыпадае 61,7 захворвання, у Гомельскай, Віцебскай, Магілёўскай абласцях адпаведна: 49,6; 48,7; 48,2. Разам з ростам захворвання ў рэспубліцы ўзрастае і смяротнасць ад раку малочнай залозы. Калі гэты паказчык складаў 11,5 на 100 тысяч жанчын у 1988 годзе, то ў 1993 — 14,2, а ў 1996 — 14,4.

Як падкрэсліў доктар медыцынскіх навук, членкарэспандэнт Міжнароднай Славянскай акадэміі навук Леанід Путырскі, палохаць нікога гэтыя лічбы не павінны (у ЗША на 100 тысяч прыпадае 110 захворванняў у год) — паспяховае лячэнне злаякаснай пухліны залежыць ад ранняй дыягностыкі.

ПОЎНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

## АТЛАС ДЛЯ ІНВЕСТАРА

Незвычайная кніга — "Інвестыцыйны атлас Беларусі" — рыхтуецца да выдання Беларускім агенцтвам садзейнічання замежным інвестыцыям сумесна з Міністэрствам знешніх эканамічных сувязей. Яна будзе ўтрымліваць кароткую статыстычную і макраэканамічную інфармацыю аб нашай рэспубліцы, дзеючае заканадаўства па інвестыцыях і апісанне праектаў, што рэалізуюцца з удзелам замежнага капіталу. Мэта гэтага фаліянта — прадаставіць поўную інфармацыю аб Беларусі патэнцыяльным замежным інвестарам.

МУЗЕЙ ПАД НЕБАМ

## У «ДУДУТКІ» — НА ВУЧОБУ

Напярэдадні Дня настаўніка ў Музеі матэрыяльнай культуры "Дудуткі" пабывала група настаўнікаў і работнікаў дашкольных устаноў Беларускай чыгункі. Тут яны пазнаёміліся з народнымі рамёствамі, экспанатамі музея, абмеркавалі будучыя экскурсійныя маршруты для сваіх выхаванцаў.

Папулярнасць гэтага музея сярод настаўнікаў і школьнікаў рэспублікі імкліва расце. Толькі за апошнія два тыдні яго наведалі каля 650 школьнікаў, у асноўным з Мінска і Салігорска. У бліжэйшы час тут чакаецца "дэсант" настаўнікаў, кіраўнікоў школ і дашкольных устаноў Савецкага і Першамайскага раённых аддзелаў асветы Мінска. Такая актыўнасць наведвання музея тлумачыцца тым, што ёсць магчымасць рэалізоўваць на яго базе адукацыйныя і пазнавальныя праграмы для дзяцей.

СТЫХІЯ

## ДАМБА НЕ ВЫТРЫМАЛА

Ліўневыя дажджы лета і восені гэтага года сталі прычынай аварыі, якая здарылася на Дабрамысленскай ГЭС, размешчанай у Лёзненскім раёне. У ахоўнай дамбе вадасховішча ўтварыліся два праёмы памерам 15 і 25 метраў, у якія і хлынула вада. Вадаёма ў 57 гектараў люстэркавай паверхні як не было. Па ацэнках спецыялістаў, ён страціў 2,2 мільёна кубаметраў вады.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Віцебскім абласным штабе грамадзянскай абароны, прарыў ліквідаваны, зроблена падсыпка грунту. Аднак станцыя, якая ўносіла свой уклад у энергазабеспячэнне рэгіёна па так званай праграме "Малыя ГЭС", не хутка зможа даць электраэнергію. Для гэтага неабходна збіранне вады, што праблематычна нават пры дажджлівым надвор'і.

ГОРАД-ЮБІЛЯР



Вы бачыце на гэтым здымку раённы цэнтр Магілёўскай вобласці горад Хоцімск, які на пачатку кастрычніка адсвяткаваў сваё 600-годдзе і 55-ю гадавіну з дня вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.

ПАСЛЯ ЎРАГАНУ

## РАЗБІРАЕМ ЗАВАЛЫ

Лясгасы Беларусі расчысцілі ад буралому ўжо каля палавіны з 3,5 тысячы гектараў лясоў, што пацярпелі ў выніку ўраганаў, якія пранесліся летам гэтага года. У Міністэрстве лясной гаспадаркі падлічылі, што з убраных дрэваў сёлета нарыхтавана 312 тысяч кубаметраў драўніны. Калі працягваць расчыстку ранейшымі тэмпамі, але паскорыць вываз драўніны, то да снежня, як і было запланавана, удасца разабраць усе завалы.

КАСМІЧНЫ ЎЗРОВЕНЬ

## ЗАКАЗАЛІ Ў БРЭСЦЕ

Прэстыжны касмічны заказ атрымаў Брэсцкі электрамеханічны завод. Тут ствараюцца распрацаваныя беларускімі вучонымі і канструктарамі комплексы для назірання за палётамі касмічных караблёў і спадарожнікаў. Гэта складаная тэхніка неабходная для ажыццяўлення расійска-амерыканскага праекта па стварэнню арбітальнай станцыі новага пакалення "Альфа". Кошт кантракта ацэньваецца ў сотні тысяч амерыканскіх долараў.

ПОШТА

## З ВЫЯВАЙ БУСЛА І ЗУБРА

Міністэрства сувязі Беларусі ўвяло ў абарачэнне дзве новыя паштовыя маркі чацвёртага стандартнага выпуску з выявай бусла і зубра.

Хаця папуляцыі гэтых прадстаўнікоў фауны ў краіне не вельмі шматлікія — сваё гняздоўі на тэрыторыі рэспублікі наладжваюць не больш за 14 300 пар белых і чорных буслоў, а статак зуброў налічвае ўсяго каля 400 жывёлін, — яны і сёння застаюцца своеасаблівай візітнай карткай жывёльнага свету Беларусі.

Новыя знакі паштовай аплаты наміналам 500 і 1 000 рублёў выпушчаны тыражом па пяць мільёнаў экзэмпляраў.

МЫТНАЯ СЛУЖБА

# ДАЗВОЛ НА ЎВОЗ РАСЛІН

Магчыма, гэта многіх здзівіць, але мытныя службы бываюць рознымі, як і іх задачы таксама. Адно з такіх падраздзяленняў, аб працы якога ўпамінаецца вельмі рэдка, — гэта беларуская служба каранціну раслін. Галоўны дакумент, якім кіруецца беларуская каранцінная служба, — Статут каранціну раслін, зацверджаны ў 1993 годзе Пастановай Савета Міністраў, дзе вызначаны яе асноўныя задачы і абавязкі. Да пачатку перабудовы каранцінны кантроль ажыццяўляўся цэнтралізавана і служба мела саюзнае значэнне. У сучасны момант яе дзеянні рэгулююцца Палажэннем аб каранціннай службе і Правіламі па знешняму каранціну, зацверджанымі Міністэрствам сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь, да якога яна адносіцца.

Сама служба падзелена на два падраздзяленні: знешняга каранціну, якое размешчана на мяжы і займаецца аховай тэрыторыі краіны ад заносу небяспечных каранцінных аб'ектаў, і ўнутранага каранціну, клопатам якога чыў пагадненні аб каранцінным кантролі практычна з усімі краінамі, з якімі вёўся гандаль. Цяпер жа гэтыя сувязі даводзіцца наладжваць нанава. У сучасны момант у Беларусі заключаны двухбаковыя пагадненні з Ізраілем, Югаславіяй, Балгарыяй, Чэхіяй, Славеніяй, Польшчай, падрыхтавана пагадненне з Венгрыяй, рыхтуецца — з Іранам. У адносінах краін, з якімі дагаворы яшчэ не заключаны, у нас дзейнічаюць правамоцныя заканадаўчыя акты, якія былі падпісаны яшчэ ў часы СССР.

Адна з галоўных праблем, звязаная з далейшым развіццём кантрольнай службы, звязана з Еўрапейскай Міжземнаморскай арганізацыяй па ахове каранціну раслін, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Парыжы. Туды сцякаецца практычна ўся інфармацыя аб каранцінным стане ўсіх краін Еўропы і часткі Міжземнамор'я, якія ўваходзяць у арганізацыю. У свой час Савецкі Саюз быў членам гэтай арганізацыі, а цяпер туды ўступілі Расія, Літва, Эстонія і Украіна. Беларусі гэта пакуль недаступна, бо членства ў арганізацыі звязана з выплатай узносаў, якія складаюць 123 тысячы франкаў. Адпаведна, мы не можам рэалізаваць і на атрыманне так неабходнай нам інфармацыі аб каранцінным стане краін, з якімі ў нас існуюць гандлёвыя адносіны. Акрамя таго, там распрацоўваюцца міжнародныя нарматывы і стандарты гандлю, якасці тавараў і міжнародныя каранцінныя патрабаванні, аб якіх нам таксама трэба было б ведаць.

Яшчэ адна арганізацыя, без уступлення ў якую Беларусь чакаюць сур'ёзныя праблемы ў міжнародным гандлі, — гэта Сусветная гандлёвая арганізацыя, дзе ўстаноўлены больш жорсткія патрабаванні, чым тыя, што мы прад'яўляем да нашых пастаўшчыкоў і якімі кіруемся самі пры адпраўцы за мяжу сваіх тавараў. Цяпер нярэдка інфармацыю аб міжнародных каранцінных патрабаваннях мы атрымліваем толькі пры заключэнні канкрэтных кантрактаў, што звязана з сур'ёзнымі праблемамі экспарту айчынных тавараў.

Асноўным прадметам беларускага экспарту, які падлягае каранціннай праверцы, з'яўляецца лес. Асабліва жорсткія патрабаванні да яго прад'яўляе Польшча. Паколькі практычна ўсе шкоднікі і разнастайныя хвароб лесу знаходзяцца пад карой дрэў, польскі бок патрабуе пастаўляць драўніну выключна са знятай карой. Нашы тэхналогіі далёка не заўсёды дазваляюць даводзіць драўніну да патрэбнай кандыцыі, і таму зрэдку бываюць выпадкі яе вяртання. Яшчэ адно абавязковае патрабаванне, што прад'яўляе Польшча да тавараў, якія імпартуюцца з Беларусі, — гэта іх фумігацыя, з тым каб нішто жывое "кантрабандай" не трапіла на тэрыторыю суседняй краіны.

Каб увезці ў краіну тую ці іншую прадукцыю, трэба атрымаць імпартна-каранцінны дазвол, дзе ўказаны ўмовы, якія краіна-імпарцёр выстаўляе адпраўшчыку грузу. Адзін экземпляр атрымлівае гаспадар грузу, другі адсылаецца на граніцу. Атрымаўшы імпартна-каранцінны дазвол, прадпрымальнік ці фірма падпісаныя ім адпраўшчыку. Пры ўвозе тавара праз мяжу адбываецца праверка таго, наколькі дакладна былі выкананы патрабаванні нашай каранціннай службы. Таму, хто прывозіць з-за мяжы насенне сельскагаспадарчых культур, трэба загадзя паклапаціцца аб афармленні сертыфіката. Катэгарычна забаронены ўвоз бабовых — фасолі і гароху — нават у невялікіх колькасцях для забеспячэння дачаў. Забаронены ўвоз саджанцаў, у той жа час можна прывозіць любыя зрэзаныя кветкі, акрамя хрызантэм. Аднак поезд апрацоўваюць усяго два чалавекі, ад якіх схаваць пакецік з насеннем не праблема...

Каранцінных аб'ектаў, якія могуць уяўляць рэальную пагрозу для людзей і сельскай гаспадаркі, сёння каля шасцідзесяці. Найбольшую небяспеку для Беларусі ўяўляе бледнабульбяная нематада, што распаўсюджана на Захадзе, але адсутнічае тут. Даная хвароба можа загубіць увесь ураджай бульбы. Таксама небяспечны так званы апёк пладовых, ачагі якога ўжо ёсць у Польшчы, Венгрыі, Югаславіі. Гэтая хвароба характарызуецца тым, што ў выпадку яе паяўлення сад плошчай да 1 000 гектараў за даволі кароткі тэрмін можа быць знішчаны практычна поўнасцю. У апошні час ачагі гэтай хваробы паявіліся ў Арменіі.

Акрамя апёку пладоў, у апошнія гады ў Югаславіі і Венгрыі паявіўся так званы заходні кукурузны жук, які з'ядае расліну на корані. Інфармацыя аб гэтым памянёнымі краінамі старанна ўтойваецца, між тым, мы да гэтага часу завозім адтуль кукурузу...

Небяспеку ўяўляе і пустазелле, якога маецца каля 12 відаў. Калі новы від пустазелля ўкараніцца на нашай глебе, змагацца з ім будзе вельмі і вельмі складана. Цікава, што заходнія краіны ў гэтым сэнсе небяспекі амаль не ўяўляюць, у гэтых адносінах трэба апасацца бліжэйшых суседзяў — Украіны, Расіі, Малдовы, адкуль мы завозім зерне.

з'яўляецца каранцінны дабрабыт калгасаў, саўгасаў і прыватнага сектара.

Пасля распаду СССР паміж краінамі СНД было заключана пагадненне па каранціну раслін, дзе абгаворана ўзаемадзеянне беларускіх службаў з аналагічнымі службамі сумежных дзяржаў і выкананне беларускай каранціннай службай патрабаванняў краінудзельніц згодна з прадстаўленымі спісамі найбольш небяспечных каранцінных аб'ектаў. Каранціннымі аб'ектамі лічацца шкоднікі, хваробы і пустазелле, якія адсутнічаюць ці абмежавана распаўсюджаны на тэрыторыі данай краіны. Пагадненне падпісалі ўсе краіны, акрамя Украіны, з якой у Беларусі існуе двухбаковае пагадненне на ўзроўні ўрадаў. Беларуская каранцінная служба кантралюе не толькі грузы, якія ўвозяцца да нас, але і тыя, што перасякаюць нашу тэрыторыю транзітам. У працэнтных адносінах грузы, прызначаныя для ўнутранага рынку, складаюць каля 20 працэнтаў, астатнія 80 працэнтаў — транзіт, які накіроўваецца ў Расію, Казахстан, на Украіну і інш.

Згодна з заключаным паміж краінамі СНД пагадненнем, беларускія службы на знешніх граніцах кантралююць усе грузы, што ідуць у іншыя дзяржавы, як і нашы суседзі правяраюць усё, што ідзе праз іх граніцы ў Беларусь. У выпадку невыканання патрабаванняў можа паўстаць пытанне аб вяртанні тавару, што бывае толькі з буйнымі партыямі і са згоды краіны-адпраўшчыка. Аднак такія сітуацыі ўсё ж разглядаюцца як выключэнне з існуючай практыкі. Па-першае, калі груз заражаны — яго можна апрацаваць спецыяльнымі хімікатамі, калі размова ідзе пра малую партыю — яе можна знішчыць, бо вяртанне, як правіла, абыходзіцца намнога даражэй.

Змена палітычнай сітуацыі ўнесла пэўныя карэктывы ў работу каранціннай службы. У былыя часы ўсе пастаўкі ажыццяўляліся цэнтралізавана і вялікімі партыямі, што значна аблягчала кантроль. Цяпер дзейнасць прыватных прадпрымальнікаў абумовіла пастаўкі тавараў дробнымі партыямі, акрамя таго, сталі пастаянна паступаць у краіну экзатычныя гародніна і фрукты, якія раней амаль адсутнічалі. Не ўяўляюць небяспекі бананы і лімоны, а вось апельсіны і мандарыны праходзяць пільную экспертызу, бо могуць з'яўляцца носьбітамі шкоднікаў раслін. Таму ў летні перыяд гэтыя цытрусавыя праходзяць спецыяльную апрацоўку, якую праводзяць спецыяльныя фумігацыйныя атрады.

Распад СССР ускладніў работу беларускай службы каранціннага кантролю яшчэ і з той пазіцыі, што Савецкі Саюз у свой час заклю-

Беларуская каранцінная служба ажыццяўляе сваю работу непасрэдна ў зоне пагранічнага кантролю, дзе правяраюцца як грузы, што непасрэдна паступаюць у Беларусь, так і тыя, што перасякаюць нашу краіну транзітам. Аднак яе інтарэсы далёка не заўсёды супадаюць з інтарэсамі мытні, бо калі галоўная задача каранціннай службы — папярэджанне пападання на тэрыторыю краіны шкоднікаў, пустазелля і хвароб раслін, дык мытныя службы ў першую чаргу цікавяць транзіт, які прыносіць у казну немалыя паступленні ад мытных пошлін. Таму сёння пастановай Савета Міністраў пагранічнай службай створана цэлая сетка ўнутраных пунктаў мытнага афармлення, якія сканцэнтраваны на чыгуначных станцыях, аўтамабільных пераходах, аэрапортах і ў рачных партах. І калі раней служба каранціннага кантролю працавала выключна на знешніх пагранічных пастах, то сёння мытны камітэт патрабуе прысутнасці яе прадстаўнікоў і на ўнутраных. Аднак трэба заўважыць, што калі размяшчэнне паста каранціннага кантролю ў непасрэднай блізкасці ад мяжы ці на адлегласці, якая не перавышае 40—50 кіламетраў ад яе, яшчэ мае сэнс, дык кантрольная праверка грузу, які пранік на 200 кіламетраў у глыб беларускай тэрыторыі, выглядае абсурднай. Згодна з правіламі, служба каранціннага кантролю ставіць на дакументах, што суправаджаюць транзітны груз, штамп, які сведчыць, што транзіт праз тэрыторыю рэспублікі дазволены. Аднак наўрад ці такі "дазвол" мае сэнс, калі да выезду з рэспублікі застаюся ўсяго некалькі дзесяткаў кіламетраў. Акрамя таго, каб каранцінная праверка не ператваралася ў пустую фармальнасць, неабходна праводзіць адпаведную экспертызу ў лабараторных умовах, стварыць якія на кожным з такіх пунктаў практычна немагчыма. Праблемай з'яўляецца і тое, што, павялічыўшы аб'ём работы службы каранціннага кантролю, штаты расклад пакінуты ў ранейшым аб'ёме. У той жа час сёння існуе рэальная патрэба стварэння новых каранцінных пастоў на чыгуначных станцыях паблізу граніцы з Украінай, бо паўднёвы накірунак лічыцца найбольш небяспечным з каранціннага пункту погляду: менавіта адтуль ідзе прадукцыя венгерскай, малдаўскай вытворчасці.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ЖУРБОТНЫ РЭПАРТАЖ

# І СУМНАЙ ВОСЕНІ МІГ...







У філосафа спыталі, як найкарацей ён ахарактарызаваў бы жыццёвы шлях чалавека. Той адказаў: "Нарадзіўся. Жыў. Памёр".

Міг... Гэта сапраўды так: гады ляцяць вельмі хутка. Не паспееш агледзецца, а ўжо час збірацца ў незваротную дарогу.

Гэта ў маладосці здаецца, што жыццю не будзе канца. Надзеі. Спадзяванні. Мары. І ўсё ў ружовым святле. Усё здаецца лёгкім, дасягальным. Вось толькі выстаў наперад руку — і вазьмі сваё шчасце.

Але жыццё распараджаецца інакш. Светлыя мары часцей за ўсё блякнуць, застаюцца будзённыя клопаты. З імі чалавек ідзе ў сваю восень, дажывае на гэтай зямлі свой міг. І клопатаў у яго — безліч. І спраў — не злічыць.

Пажыламу, старому ў сваёй восені — жыццёвай (па гадах) і прыроднай, якая стаіць на двары, — усё карціць. Вось прыедуць дзеці, якія разляцеліся па гарадах. Ім трэба наладаваць сумкі гароднінай, садавінай, свежанінай. А ўнукаў хочацца пачаставаць свежанькім малачком, няхай сабе казіным, смачнай смятанкай. Вось і стараюцца летам, восенню назапасіць для жыўнасці корму. І восеньская атава зімой прыдасца.

Цяжка жыць сёння на Беларусі. А пажылым і старым — тым больш. За сярэднюю пенсію можна купіць усяго чатыры кілаграмы добрай каўбасы альбо такія-сякія чаравікі. А яшчэ трэба на нешта існаваць. Вось і круцяцца, як могуць, рвуць жылы.

Пакуль жыве руплівы чалавек, ён увесь у працы. Яму і прыродная, і жыццёвая восень, хаця і нялёгкая, а прыемная.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

заходніх саюзнікаў працавалі савецкія рэпатрыяцыйныя місіі з супрацоўнікаў Дзяржбяспекі, у выніку чаго частка бежанцаў насуперак асабістай волі накіроўвалася ў лагеры савецкай зоны.

21 красавіка 1945 года старшыня Надзвычайнай Дзяржаўнай Камісіі па ўстанаўленню і расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў М. Шврнік выдаў указанне, у адпаведнасці з якім СНК БССР і ЦК КП(б)Б прынялі пастанову "Аб правядзенні апытання савецкіх грамадзян, якія вяртаюцца з нямецкага рабства". Гэта пастанова абавязвала сакратароў абкомаў КП(б)Б і старшынь аблвыканкомаў неадкладна разгарнуць работу па апытанню рэпатрыянтаў. Такія ж абавязкі былі ўскладзены і на наркома Дзяржбяспекі Л. Цанаву, наркома ўнутраных спраў БССР С. Бельчанку, пракурора БССР І. Вятрова. Усе названыя асобы павінны былі забяспечыць актыўны ўдзел абласнога і раённага апарату ў апытанні рэпатрыянтаў. Матэрыялы апытання неабходна было даць у Маскву, у Надзвычайную Дзяржаўную Камісію, а копіі — у рэспубліканскія камісіі садзейнічання ў рабоце НДК (Саўнарком БССР).

Запаўняючы 17 пунктаў, апрача стандартных анкетных даных (прозвішча, імя, імя па бацьку, год і месца нараджэння, месца работы да вайны, хатні адрас), рэпатрыянты апісвалі абставіны, пры якіх былі вывезены за межы Беларусі, месцы, у якіх працавалі (часта, даючы падрабязны адрас), характарызавалі сваіх работадаўцаў, умовы працы (від і аб'ём работ, памер аплаты працы, пакаранні), пры гэтым часта адзначалі невыносныя ўмовы жыцця ўсходніх рабочых, сістэматычныя здзекі з іх, называючы канкрэтных віноўнікаў. Гэтыя анкеты, якія былі запоўнены рэпатрыянтамі ў 1945—1946 гадах, з'яўляюцца унікальнымі крыніцамі па пытаннях вывазу беларусаў у гады акупацыі і вяртання іх на радзіму. Па падліку Ілы Куркова, усяго ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь захоўваецца 8 568 такіх анкет, якія ўтрымліваюць звесткі пра жыхароў сарака пяці раёнаў Бабруйскай, Віцебскай, Магілёўскай абласцей, а таксама гарадоў Бабруйска, Віцебска, Магілёва і Оршы.

Перад намі апытальны ліст ад 2 чэрвеня 1945 года рэпатрыянткі Лаханькі Ганны Антонаўны, 1899 года нараджэння, ураджэнкі вёскі Руднае Капыльскага раёна, да ўгону працавала ў сельскай гаспадарцы. Вось яе адказы на 4 з 17 пытанняў анкеты:

"Пытанне 6. Калі быў угнаны?

Адказ: Я была ўгнана ў германскую няволю 21 мая 1944 года з вёскі Руднае Капыльскага раёна за тое, што мой сын быў у партызанах.

Пытанне 7. Хто з немцаў (венграў, румын і інш.) кіраваў прымусовым угонам, хто ім дапамагаў?

Адказ: Мяне, маю дачку з дзіцем забралі немцы. Прозвішчы іх не памятаю. Дапамагаў ім солтыс нашай вёскі Мялешка Мікалай, які недзе цяпер знаходзіцца ў шпіталі. Ён прывёў немцаў і паказаў на маю кватэру.

Пытанне 14. Кароткі пераказ умоў працы і жыцця ў няволі.

Адказ: Працавала я на розных работах, часта мне не па сілах, на будаўніцтве ўмацаванняў і г. д. Працавалі мы ў дзень гадзін 10, а потым увесь час сядзелі за дротам у лагеры. За працу нам нічога не плацілі. Харчаванне было дрэннае. На дзень давалі па літру баланды з неачышчаных буракоў і адну буханку хлеба (2 кілаграмы) на 12 чалавек на цэлы тыдзень. Адзення ніякага не давалі. Хадзілі паўраздзетымі зімой і летам. На ногі давалі драўляныя кандалы, а ноччу спалі на мяшку з паперы.

Пытанне 15. Кароткі пераказ фактаў здзекаў, насілляў, пабояў і іншых злачынных дзеянняў уладальнікаў прадпрыемстваў, іх служачых, гаспадароў, гаспадынь і іншых асоб у адносінах да ўгнаных у германскую няволю.

Адказ: Угнаных у германскую няволю лічылі за рабоў. Вельмі моцна з нас здзекаваліся. Калі яшчэ знаходзіліся ў Эстоніі (з Слуцка Г. А. Лаханька была накіравана на будаўніцтва ўмацаванняў у Эстонію. — **М. Б.**), то ўсіх дзяўчат і маладых жанчын з нашага лагера немцы разабралі. Урач іх агледзеў. Потым накіравалі ў лазню, і пасля гэтага немцы іх замучылі — гвалтавалі ўсіх да смерці. І такія выпадкі былі заўсёды і ўсюды і ў Германіі. Расстрэльвалі штодзённа. Прымушалі мужчын насіць на сабе стогадовыя сосны за некалькі кіламетраў. Хто ад стомленасці падаў, то прыстрэльвалі на месцы. Калі Чырвоная Армія падыходзіла да горада, дзе мы былі ў лагеры, то немцы мацнейшых пагналі далей, а слабых і хворых, якія не маглі ісці, застрэльвалі і спальвалі".

*РЭПАТРЫЯЦЫЯ*

# ВЯРТАННЕ ДАДОМУ

Створаныя ў Савецкім Саюзе і ва ўсіх зарубежных краінах, куды былі ўгнаны нашы людзі, органы рэпатрыяцыі правялі вялікую работу. З фашысцкай няволі былі вернуты мільёны савецкіх грамадзян.

Савецкім урадам былі выдадзены пастановы і распараджэнні, якія прадугледжвалі правы і льготы рэпатрыіраваных. Яны зноў атрымалі ўсе правы савецкіх грамадзян, прыцягваліся да актыўнага ўдзелу ў працоўнай і грамадска-палітычнай дзейнасці нашай краіны. З моманту прыбыцця на зборны пункт для адпраўкі на радзіму яны залічваліся на армейскі паёк (па чацвёртай ваеннай норме за кошт наркамата абароны) і атрымлівалі яго да прыбыцця на месца прызначэння. Пры адпраўцы рэпатрыянтаў да ранейшага месца жыхарства на зборна-перасыльных пунктах іх забяспечвалі сухім пайком па трэцяй ваеннай норме ад трох да дзесяці сутак у залежнасці ад дальнасці накіравання. Рэпатрыянты, якія прыбывалі на радзіму і траплялі на прыёмна-размеркавальныя пункты, забяспечваліся аднаразовым гарачым харчаваннем па норме рабочых і служачых чыгуначнага транспарту і 500 грамамі хлеба. Дзецям выдавалі спецыяльнае харчаванне. Усім рэпатрыіраваным аказвалася таксама бясплатная медыцынская дапамога, тым, хто меў патрэбу, выдаваліся абутак, адзенне і бялізна. Па прыбыцці на месца сталага жыхарства, тым, хто адчуваў патрэбу, выдавалася аднаразовая грашовая дапамога. Мясцовая савецкая ўлада дапамагала з жыллём і працаўладкаваннем. Жыхары сельскай мясцовасці сяліліся ў сваіх дамах ці дамах сваякоў і пачыналі працаваць у калгасах.

Пытанні прыёму і працоўнага ўладкавання рэпатрыянтаў былі ў полі зроку СНК БССР. Выявілася шмат недахопаў. Так, напрыклад, пытанне "Аб недахопах у рабоце прыёмна-размеркавальнага пункта рэпатрыіруемых у г. Мінску" 27 жніўня 1945 года было заслухана на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б. Мінскі абком КП(б)Б абавязалі ў трохдзённы тэрмін ліквідаваць недахопы ў рабоце прыёмна-размеркавальнага пункта ў Мінску. Для прыёмна-размеркавальнага пункта былі адведзены два драўляныя баракі. Апрача службовых памяшканняў, у гэтых бараках былі абсталяваны адна агульная зала на 70—75 чалавек, пакой маці і дзіцяці на 25—30 чалавек. Рамантавалася і другая агульная зала ў бараку № 2. Для штодзённага дзяжурства ў сталах даведак былі выдзелены 28 работнікаў юстыцыі і ваенкаматаў. Пункт быў забяспечаны медыкаментамі для аказання першай дапамогі, тут дзяжурылі ўрач і дзве медсястры. Рэпатрыянты, якія прыбывалі ў Мінскую вобласць, забяспечваліся гарачым харчаваннем у сталовай пятага будаўнічага ўчастка пуці Заходняй чыгункі.

Былі недахопы і ў адпраўцы да месца жыхарства грамадзян, якія прайшлі праз праверачна-фільтрацыйныя пункты. У пісьме наркому ўнутраных спраў БССР С. Бельчанку ад 19 кастрычніка 1945 года намеснік старшыні СНК БССР К. Кісялёў адзначаў: "Асобы, якія прайшлі праверку, адпраўляюцца да месца жыхарства агулам, не па маршрутах, дробнымі партыямі і нават адзіночкамі. У выніку, на галаўных станцыях Баранавічы, Стоўбцы, Мінск, Мікашэвічы і іншых пры перафарміраванні паяздоў людзей з вагонаў высаджвалі. Людзі вымушаны туліцца на станцыях пад адкрытым небам, мокнуць, мерзнуць, галадаць. Маюцца выпадкі захворванняў, асабліва дзяцей.

Для ліквідацыі недахопаў прашу даць указанне начальнікам праверачна-фільтрацыйных пунктаў загадзя прадстаўляць начальнікам станцый заяўкі на вагоны ў лік цэнтралізаванай заяўкі СНК БССР. Людзей групіраваць па маршрутах і не менш чым на адзін вагон. Сумесна з начальнікам станцыі складаць акты на перавозку, якія будуць дакументам для безнаяўных цэнтралізаваных разлікаў".

У ліпені 1946 года ў дакладной запісцы начальніку аддзела Савета Міністраў БССР па справах перасялення і рэпатрыяцыі І. Баркову начальнік аддзела перасялення і рэпатрыяцыі Брэсцкага аблвыканкома С. Хвашчэўскі адзначаў, што на тэрыторыі Брэсцкай вобласці многія воінскія часці месяцамі ўтрымліваюць рэпатрыіраваных грамадзян СССР. Так, у воінскай часці 277 (асобным рабочым батальёне, камандзір Аўтаменка), што дыслацыравалася ў Паўночным гарадку (Брэст), у ліпені 1946 года знаходзілася 114 рэпатрыіраваных савецкіх грамадзян, узрост ад 1900 да 1928 года нараджэння. Яны былі тут у сваім абмундзіраванні ўжо звыш пяці месяцаў, атрымлівалі вельмі нізкую зарплату, а некаторыя з іх увогуле яе не атрымлівалі. У іх вылічвалі за харчаванне, замест прызначанай нормы хлеба 450 грамаў ім выдавалі ўсяго 300 грамаў. Рэпатрыіраваных утрымлівалі ў лагеры за дротам. Нікуды не выпускалі, каб яны не разбегліся.

У воінскай часці 34029 (64-ты аўтарамонтны завод, размешчаны ў ваенным гарадку Слабодка Пружанскага раёна) у ліпені 1946 года знаходзілася 230 рэпатрыіраваных (мужчын і жанчын). Многія з іх працавалі звыш шасці месяцаў, але іх не адпускалі дадому, нягледзячы на неаднаразовыя іх звароты. Адказ быў адзін: "Трэба працаваць".

Некаторыя рэпатрыянты нават страцілі надзею на вяртанне дадому і звярталіся з пытаннем: "Ці можам мы вярнуцца на радзіму?"

Падсобная гаспадарка воінскай часці 28906 (загадчык гаспадаркі старшы лейтэнант Пакрасаў) была размешчана ў вёсцы Макраны Маларыцкага раёна. Тут у ліпені 1946 года ўтрымлівалі як рабочую сілу каля 200 рэпатрыіраваных (мужчын і жанчын). Кармілі дрэнна, абмундзіраваннем не забяспечвалі, на працягу шасці месяцаў не плацілі зарплату. У сувязі з дрэннымі матэрыяльнымі і бытавымі ўмовамі жыцця рэпатрыіраваныя вымушаны былі прадаваць свае апошнія рэчы, каб пракарміцца, а з некаторых патрабавалі даплаціць падсобнай гаспадарцы за харчаванне. У выніку такіх жа неспрыяльных умоў працы і жыцця, створаных для рэпатрыіраваных, рэпатрыянтка Альхоўская Марыя Іванаўна прыняла атрутнае рэчыва з мэтай пакончыць жыццё самагубствам. Толькі дзякуючы своечасова аказанай урачамі дапамозе, яна засталася жывой.

У падсобнай гаспадарцы чыгуначнага тэхнікума рэпатрыянтка Царук Вольга Іванаўна прапрацавала звыш месяца. З ёю не разлічыліся і не выдалі даведкі аб працы. Загадчык падсобнай гаспадаркі адказваў, што яна павінна прыехаць на радзіму, атрымаць пашпарт, тады яны ёй заплацяць.

Такія факты сведчылі, што некаторыя кіраўнікі воінскіх часцей і грамадзянскіх адміністрацыйных устаноў фармальна-бюракратычна ставіліся да рэпатрыіраваных грамадзян, не рэагавалі на іх патрэбы, скаргі. У выніку ўсё гэта стварала нездаровы настрой у рэпатрыянтаў.

У дакладной запісцы С. Хвашчэўскі прасіў садзейнічання І. Баркова ў пастаноўцы перад воінскімі часцямі пытання аб адпраўцы рэпатрыянтаў да месца іх жыхарства.

А вось пісьмо рэпатрыіраванага С. Балтунова ад 10 ліпеня 1946 года начальніку аддзела перасялення і рэпатрыяцыі Брэсцкага аблвыканкома: "Гэтым прашу Вас даць мне тлумачэнне, хто і пры якіх абставінах можа паехаць да сябе дадому ў свой родны горад (сяло). Прашу Вас прыслаць адказ мне пісьмом па адрасу: Брэсцкая вобласць, Пружанскі раён, палявая пошта 34029, Балтунову Стэфану Пятровічу. Мяне цікавіць гэтае пытанне таму, што на 64-м аўтарамонтным заводзе працуе 230 рэпатрыіраваных, якія за час свайго знаходжання на заводзе даказалі сваёй працай адданасць сацыялістычнай радзіме і свайму народу. Сярод гэтых людзей ёсць таварышы, якія выконваюць вытворчае заданне на 200—250 працэнтаў.

Я прашу Вашага растлумачэння, ці могуць такія таварышы пры іх жаданні вярнуцца да сябе на радзіму. Калі могуць, то якім чынам. Прашу задаволіць маю просьбу.

Балтуноў".

Чынілі перашкоды мясцовыя ўлады і ў вяртанні рэпатрыянтам іх дамоў, кватэр. Так, грамадзянка Пятрова была сілай вывезена немцамі з Магілёва. Гаркамгас, ведаючы, што яна ўгнана ў Германію, узяў на свой баланс яе дом і ўсяліў туды двух жыльцоў. У 1945 годзе Пятрова вярнулася з Германіі і на працягу некалькіх месяцаў не магла ўсяліцца ў свой уласны дом.

Жыхарка Мінска Харкевіч у час нямецкай акупацыі была сувязной аднаго з партызанскіх атрадаў. У час выканання аднаго з заданняў яна трапіла ў рукі гестапа і была ўгнана ў Германію. Вярнуўшыся, яна атрымала партызанскія дакументы, а вось кватэру не магла вярнуць на працягу дзесяці месяцаў. На жаль, такія факты былі не адзінкавымі.

У справаздачы пракурора Брэсцкай вобласці, старшага саветніка юстыцыі Правільскага ад 23 ліпеня 1945 года намесніку Старшыні СНК БССР К. Кісялёву аб праверцы фактаў злачынных адносін да рэпатрыянтаў на станцыі адзначана: "1. Чырвонаармеец этапна-загараджальнай камендатуры станцыі Брэст І. Цімафееў сапраўды 4 ліпеня 1945 года ў час пасадкі пасажыраў у поезд учыніў крадзеж у рэпатрыіруемай Э. Алердніной адной скрыні з рэчамі. Рэчы ў Цімафеева былі адабраны, сам ён быў прыцягнуты да адказнасці. (...) 3. На станцыі Брэст 4 ліпеня 1945 года быў выпадак, калі невядомы ваеннаслужачы спрабаваў украсці карзіну ў рэпатрыіраванай Р. Шайфер, мяркуючы, што там ёсць рэчы. Карзіна была выкінута з поезда, а замест рэчаў у ёй было двое непаўналетніх дзяцей. Невядомы ваеннаслужачы, які спрабаваў здзейсніць гэты крадзеж, быў затрыманы работнікамі міліцыі, але група байцоў таго ж этапна-загараджальнага органа на чале са старшыной Іванам Лісіным перашкодзіла затрыманню невядомага. Матэрыял аб гэтым чыгуначнай міліцыяй быў перададзены каменданту Брэста.

4. З боку работнікаў чыгуначнага транспарту былі выпадкі яўна злачынных адносін да рэпатрыіруемых пры пасадцы ў паязды. Так, начальнік станцыі Брэст-Цэнтральны Я. Лях у красавіку 1945 года ўзяў у рэпатрыіраванай Клакоўскай і іншых паліто, сукенку і шмат іншых рэчаў за пасадку ў поезд. Да таго ж была дапушчана памылка ў поездзе: замест адпраўлення ў Літоўскую ССР, яны былі накіраваны ў адваротны бок, на Кіеў. Па вяртанні назад у Брэст за другую пасадку Лях таксама атрымаў некалькі рэчаў. Ваенным трыбуналам Лях быў асуджаны да 8 гадоў пазбаўлення волі. (...)

5. На станцыі Брэст былі раскрыты выпадкі спроб згвалтавання жанчын паблізу вакзала. Так, 4 ліпеня 1945 года ноччу рэпатрыіраваная Л. Норман, знаходзячыся каля вакзала, была зацягнута ваеннаслужачым ваенна-загараджальнай камендатуры К. Кутковічам у кусты, але ён быў заўважаны і затрыманы. Справа перададзена ў ваенны трыбунал. (...)

Пракурор па Брэсцкай вобласці старшы саветнік юстыцыі
Правільскі".

На 1 сакавіка 1946 года было рэпатрыіравана 4 199 000 савецкіх грамадзян, у іх ліку 520 672 беларусы (325 896 цывільных і 134 776 ваеннапалонных).

У сувязі з тым, што вяртанне асноўнай масы рэпатрыянтаў па БССР да сакавіка 1946 года было закончана і падлягала рэпатрыяцыі ў далейшым нязначная колькасць савецкіх грамадзян, СНК БССР 22 сакавіка 1946 года прыняў пастанову № 438 "Аб скарачэнні сеткі органаў па справах рэпатрыяцыі". Згодна з гэтай пастановай з 1 красавіка 1946 года былі закрыты абласныя прыёмна-размеркавальныя пункты ў Маладзечанскай, Полацкай, Віцебскай, Магілёўскай, Бабруйскай, Пінскай і Палескай абласцях і харчовыя пункты на станцыях Лунінец і Орша. У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў БССР з 1 мая 1946 года былі закрыты абласныя прыёмна-размеркавальныя пункты ў Брэсцкай, Баранавіцкай, Гродзенскай, Гомельскай і Мінскай абласцях. Далейшае абслугоўванне рэпатрыіруемых грамадзян, што прыбывалі ў вобласць, а таксама транзітных рэпатрыянтаў Савет Міністраў БССР усклаў на абласныя аддзелы па справах перасялення і рэпатрыяцыі.

У адпаведнасці з Жэнеўскай канферэнцыяй 1949 года аб абароне ахвяр вайны ў 1946—1952 гадах у СССР вярнуліся яшчэ 104 893 рэпатрыянты. Большасць з іх была прымусова вернута з краін, дзе знаходзіліся савецкія войскі. Грамадзяне, якія не пажадалі вярнуцца ў СССР, склалі так званую другую хвалю эміграцыі. Пытанне рэпатрыяцыі было аб'ектам вострай палітыка-ідэалагічнай і дыпламатычнай барацьбы паміж былым СССР і заходнімі дзяржавамі ў першыя пасляваенныя гады.

У выніку дзейнасці органаў рэпатрыяцыі да 1 студзеня 1953 года ў СССР вярнулася 5,5 мільёна савецкіх грамадзян (на іх рэпатрыяцыю савецкая дзяржава затраціла звыш 2 мільярдаў рублёў).

Іншую пазіцыю занялі ў пытанні рэпатрыяцыі нашы былыя саюзнікі. Да канца 1946 года звыш 1,2 мільёна чалавек яшчэ затрымліваліся ўладамі ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі як "прыцягнутыя да прымусовай працы" ў лагерах, створаных у заходніх зонах акупацыі Германіі. У верасні 1948 года 22,4 працэнта кантынгенту, змешчанага ў гэтых лагерах, складалі дзеці. Акупацыйныя ўлады вывозілі грамадзян, якіх раней угналі фашысцкія акупанты ў Германію (дарослых і дзяцей), у ЗША і іншыя краіны, вербавалі іх і выкарыстоўвалі для падрыўной дзейнасці супраць сацыялістычных дзяржаў.

Цяжка вызначыць, колькі беларусаў засталося б за мяжой, калі б яны мелі права выбару краіны пражывання. Але ў адпаведнасці з рашэннем СНК БССР аб рэпатрыяцыі (кастрычнік 1944 года) ёй падлягалі ў абавязковым парадку ўсе, хто апынуўся за межамі СССР, незалежна ад іх намераў. Як адзначала Галіна Сяргеева ў артыкуле "Беларуская дыяспара: погляд на мінулае і сучаснасць" ("Г. Р." за 13.07.1997 года), яшчэ ў гады вайны пачалося "паляванне" і на лідэраў палітычнай эміграцыі. Вядома, што калегія Вярхоўнага Суда БССР 29 студзеня 1944 года вынесла прысуд (25 гадоў працоўна-папраўчых лагераў) Л. Геніюш, якая пражывала ў Празе (як асоба без грамадзянства) і была прызначана ў 1943 годзе сакратаром БНР.

З тых тэрыторый, якія вызваліла Чырвоная Армія, савецкія рэпарацыйныя камісіі арганізавалі вываз у СССР практычна ўсіх, незалежна ад іх памкненняў. Пры гэтым трэба адзначыць, што пераважная большасць жадала вярнуцца на радзіму. Паўторымся, што да сакавіка 1946 года, калі ў асноўным рэпатрыяцыя была завершана, у БССР вярнуліся звыш 520 тысяч беларусаў. Практычна ўсе яны ў той ці іншай форме зведалі недавер уладаў да іх, а рэпатрыянты-афіцэры (за нязначным выключэннем) пасля фільтрацыйных лагераў трапілі ў сістэму ГУЛАГа ці на спецпасяленне.

У англійскай, французскай і амерыканскай акупацыйных зонах былі створаны лагеры для перамешчаных асоб, у тым ліку і беларускія, якія арганізоўвалі нацыянальнае, культурна-грамадскае жыццё суродзічаў. Савецкія рэпатрыяцыйныя камісіі наведвалі іх, прымушаючы людзей да вяртання ў СССР, бо саюзнікі ў адпаведнасці з дамоўленасцямі на Ялцінскай канферэнцыі 1945 года падтрымлівалі прымусовую рэпатрыяцыю (аж да 1947 года). Па звестках Беларускага Нацыянальнага Камітэта (у Заходняй Германіі), 75—100 тысяч беларусаў не жадалі вяртацца ў СССР па розных прычынах, прычым дзве трэці іх паходзілі з Заходняй Беларусі. Дарэчы, як былыя грамадзяне даваеннай Польшчы, яны мелі магчымасць, змяніўшы нацыянальнасць, пазбегнуць вяртання ў СССР. Засталіся на эміграцыі і беларусы польскага корпуса генерала Андэрса.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

*НАМ ПІШУЦЬ*

# АСВЯЦІЛІ ПАСЛЯ СОТНІ ГАДОЎ

Жыў калісь на Зарэччы (усходнім квартале Вільні) заслужаны беларускі святар — кс. др. Адам Станкевіч. Ахвярны і цвёрды гэта быў чалавек. Ні на што і ні на кога нягледзячы, змагаўся ён пры любых уладах за вызваленне народа з-пад акупацыі, за вольную і свабодную Бацькаўшчыну.

Побач з Зарэччам стаяў невялікі, але даволі прыгожы касцёл св. Барталамея. Стаяў... Але праводзіць службы для верных хрысціян яму тут не дазвалялі. І служыць Стварыцелю, гаварыць казанні людзям Адам Станкевіч змушаны быў у іншых святынях: касцёлах св. Ганны і св. Мікалая.

Як вядома, кс. др. Станкевіч быў замучаны ў сталінскіх лагерах. Не давялося яму дажыць да краху бальшавіцкай імперыі і вярнуцца ў свабодную, незалежную Беларусь. Аднак пасеянае ім мудрае і здаровае насенне дало добрыя парасткі. І шматгадовыя намаганні беларусаў-католікаў знайшлі падтрымку ў адроджанай Летуве: пасля 100 гадоў касцёл сёння адчынены і асвячоны пры масавым удзеле прыхаджан.

Сабраўшыся, прыхаджане шчыра дзякавалі арцыбіскупу Бачкісу за яго прыхільнасць да беларусаў і актыўную падтрымку. Гэты высокаадукаваны святар шмат гадоў працаваў у Францыі, дзе засвоіў і шчыра падтрымліваў законы і звычаі справядлівасці і дэмакратызму. Як у свецкім, так і ў царкоўным жыцці.

Хоць дзень адкрыцця і асвячэння касцёла мяняўся, на гэтую радасную ўрачыстасць з'явілася каля тысячы веруючых. Месца ў запоўненай святыні не хапіла, і каля сотні прыхаджан стаялі на двары. Сярод іх — пачынальнікі, ініцыятары, шчырыя хрысціяне, якія некалькі доўгіх гадоў дабіваліся адкрыцця роднай святыні: Людвіка Кардзіс, Міраслава Русак, Яраслаў Станкевіч, Сяргей Вітушка і іншыя. На шчасце, выдалася спрыяльнае надвор'е.

Пунктуальна, у вызначаны час, з'явіўся Яго эксцэленцыя арцыбіскуп Бачкіс, які ў суправаджэнні прэлата кс. Алюліса і вызначанага настаяцеля касцёла Яна Шуткевіча прайшоў па высланай зелянінай і кветкамі дарожцы з вуліцы ў святыню.

Цяжка перадаць словамі, што перажывалі згаладалыя па родным слове прыхаджане-беларусы, якім прыходзілася доўгія гады звяртацца да Госпада чужымі словамі або чужымі вуснамі... Магутныя мелодыі аргана, песні выдатнага хору, цёплыя, родныя словы Евангелля, што прагучалі на матчынай мове з вуснаў шчырых і добрых служыцеляў Стварыцеля, пранікалі да глыбіні душы і ўваскрашалі ў сэрцах веру і надзею на адраджэнне справядлівасці ў людзей і нашых апекуноў.

Не сакрэт, што чужы адносна беларусаў клер прынёс на Беларусь мала карысці, але шмат шкоды, маральных стратаў. Яго непрыхільнасць, а часта — варожасць да ўсяго беларускага калечыла душы насельніцтва і падштурхоўвала да атэізму. Многія не хадзілі ў царкву, адракліся ад веры, якая перастала быць роднай.

Становішча значна пагоршылі бальшавікі, якія вялі бязлітасную вайну супраць рэлігіі. Нішчэнне будынкаў (касцёлаў і цэркваў), аплёўванне веры і праследаванне, горшае, чым першых хрысціян у Рыме, пакінула нязмыўныя сляды. Скалечыла многія пакаленні.

Здавалася б, што скалечаны ашуканствам і подкупам беларус Віленшчыны навек адрокся ад веры сваіх продкаў і нацыянальнасці. Аднак апошнія гады адраджэння і адкрыццё беларускай святыні паказалі, што гэта не так.

Характэрна, што нават моладзь пачынае задумвацца над рэлігійным і нацыянальным ашуканствам. Аб гэтым сведчыць не толькі школа і беларускі факультэт універсітэта, але і прысутнасць у час адкрыцця касцёла немалой колькасці маладых людзей.

Евангельская навука Хрыста знаходзіць у народзе належны грунт і прадказвае справядлівыя суадносіны ўсіх нацыянальнасцяў і народаў. Калі будуць намі апекавацца такія служыцелі Хрыста, як архіепіскап Бачкіс, хутка ў нашым жыцці пераможуць прынцыпы праўды, сумленнасці і братэрства. Пра гэта павінна падумаць не толькі беларускае духавенства, але і ненасытныя захопнікі душ людскіх.

Архіпастыр Бачкіс, монсіньёр Васіляўскас і настаяцель новаасвячонага касцёла а. Шуткевіч карыстаюцца вялікім аўтарытэтам у насельніцтва ўсіх канфесій. Дзякуючы іхнім стараннем і дапамозе, новаадкрытая святыня забяспечана ўсім неабходным для нармальнай чыннасці. Тысячы беларусаў выказваюць ім за гэта шчырую і глыбокую падзяку!

**Аляксей ЗІНКЕВІЧ.**

г. Вільня.

ЗАБЫТЫЯ ІМЁНЫ

# ВЕНЦАСЛАЎ ПЕЛІКАН

9 ліпеня споўнілася 125 гадоў з дня смерці вядомага ў свой час у медыцынскім свеце хірурга і анатама Венцаслава Пелікана. На жаль, у Беларусі пра яго зусім ніхто не ведае. Праўда, у сваёй кнізе "С факелом Гиппократа" Валянцін Грыцкевіч трохі яго ўспамінае. Але ў адным абзацы пра такую асобу, як Пелікан, не раскажаш. А забыць ці выкінуць з гісторыі Беларусі гэтага адукаванага і здольнага чалавека проста нельга.

Венцаслаў Пелікан нарадзіўся ў Слоніме ў 1790 годзе ў дваранскай сям'і. Бацька яго Вацлаў Пелікан быў музыкантам слонімскага аркестра тэатра Агінскага. Два гады, пачынаючы з верасня 1776 года да верасня 1778-га, атрымліваў тут месячную плату 10 дукатаў, а да сакавіка 1785 года — толькі сем дукатаў. На першае студзеня 1782 года каса гетмана Агінскага завінаваціла яму 44 дукаты. Гэта былі вялікія грошы. Таму сям'я Пеліканаў была даволі багатай. Да апошніх дзён бацька Венцаслава заставаўся ў Слоніме, дзе ў 1797—1798 гадах быў наглядчыкам замка.

Першапачатковую адукацыю Венцаслаў Пелікан атрымаў у Маладзечне. А ў 1809 годзе праслухаў курс філалагічных навук у Віленскім універсітэце.

Восенню 1809 года яго залічылі студэнтам медыцынскага аддзялення Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Скончыў яе з залатым медалём і быў уладкаваны на працу на кафедру хірургічнай паталогіі і клінікі, якую ўзначальваў тады знакаміты хірург І. Буш.

У 1814 годзе наш зямляк знаёміць вучоны савет акадэміі са спіскам 58 аперацый, якія ён зрабіў. За працу "Аб анеўрызмах" Венцаславу Пелікану прысвойваюць ступень доктара медыцыны і хірургіі. Праз два гады ён атрымлівае пасаду ад'юнкта-прафесара за цыкл лекцый "Аб перашкодах, якія сустракаюцца пры даставанні каменя з мачавога пухіра і спосабы пераадольвання іх".

З 1817 да 1831 года дзейнасць Венцаслава Пелікана цесна звязана з Віленскім універсітэтам. Ён выбіраецца прафесарам на кафедру тэарэтычнай і практычнай хірургіі і хірургічнай клінікі, выкладае студэнтам хірургію, анатомію і судовую медыцыну.

У 1824 годзе доктар са Слоніма быў абраны дэканам медыцынскага аддзялення, а ў 1826 годзе становіцца рэктарам Віленскага універсітэта.

У 1831 годзе Венцаслаў Пелікан зноў вяртаецца ў Пецярбург, дзе працуе інспектарам Міністэрства ўнутраных спраў Расіі, дырэктарам медыцынскага дэпартамента ваеннага міністэрства, а ў 1851 годзе яго выбіраюць прэзідэнтам Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Тут ён упершыню пачынае праводзіць акадэмічныя канферэнцыі, на якіх вядомыя дактары і навукоўцы чыталі свае даклады. А праз 14 гадоў ва ўзросце 75 гадоў В. Пелікан становіцца старшынёй медыцынскага савета Міністэрства ўнутраных спраў Расіі. Як бачыце, вельмі ўдала і паспяхова наш зямляк рухаўся наперад па службовай лесвіцы ў тагачаснай мікалаеўскай Расіі.

Заслугі ў медыцыне Венцаслава Пелікана вельмі вялікія. Акрамя лекцый ён выдаваў вучэбныя дапаможнікі, сабраў шмат матэрыялаў па анатамічнай медыцыне, стварыў новыя хірургічныя інструменты, сярод якіх і пілу, што пры пілаванні косці не траўміруе мяккіх тканак. А таксама вынайшаў спецыяльную фрэзу для трэпанацыі чэрапа.

Шмат зрабіў наш зямляк і ў хірургіі сасудаў, вядомыя яго аперацыі ў галіне шыі і галавы. Асобныя віды аперацый і тэхнічныя дэталі насілі тады на практыцы амаль рэвалюцыйны характар.

Венцаслаў Пелікан прымаў актыўны ўдзел і ў грамадскім жыцці Вільні і Пецярбурга. Ён быў старшынёю камітэта па складанню праекта Віленскай вучэбнай акругі і новага статута Віленскага універсітэта. Ён быў ганаровым членам-карэспандэнтам медыка-хірургічнай акадэміі ў Пецярбургу, членам Віленскага і Варшаўскага медыцынскіх таварыстваў, таварыства кіеўскіх дактароў і Харкаўскага універсітэта...

Памёр Венцаслаў Пелікан на 83 годзе жыцця ў 1873 годзе ў Пецярбургу.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

**«НАДЗЕЯ — XXI СТАГОДДЗЕ»**







**Дзіцячы аздараўленча-адукацыйны цэнтр "Надзея", створаны ў рамках беларуска-германскага праекта "Надзея — XXI стагоддзе", існуе ўжо чатыры гады. За гэты час у ім прайшлі аздараўленне каля 5 тысяч школьнікаў з раёнаў чарнобыльскай зоны. У гэтым годзе на конкурсе гуманітарных праектаў на прэмію фонду Роберта Бома праект "Надзея — XXI стагоддзе" ўдастоены першай прэміі (10 000 нямецкіх марак).**

**Акрамя нямецкіх фондаў, у фінансаванні і аснашчэнні цэнтра "Надзея" ўдзельнічаюць дабрачынныя арганізацыі Японіі.**

**НА ЗДЫМКАХ: дзеці з чарнобыльскіх раёнаў на адпачынку ў цэнтры; дзіцячы аздараўленча-адукацыйны цэнтр "Надзея"; беларускія і нямецкія спецыялісты каля макета-схемы раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**



Помнік паэтэсе Еўдакіі ЛОСЬ у Віцебску.
Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

З ФЕСТЫВАЛЮ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА «БЕЛАСТОК—ГРОДНА»

# НАС ЯДНАЮЦЬ ПЕСНІ

Тон прыязнасці і дабрыні на чарговым, шостым па ліку, фестывалі "Мастацкія сустрэчы Беласток—Гродна", што адбыўся ў горадзе над Нёманам, стаў панаваць ужо з афіцыйнага адкрыцця імпрэзы. Удзельнікаў традыцыйнага спаткання, а імі былі лепшыя беларускія калектывы з Беласточчыны і польскія — з Гродзеншчыны, шчыра прывіталі старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Ян Сычэўскі і намеснік старшыні Саюза палякаў Беларусі Тадэвуш Малевіч. Услед за іх кароткімі выступленнямі паведамляецца, што ў Валянціны Ласкевіч, госці з Беластока і адной з вядучых фестывалю, якраз дзень нараджэння. Імяніннічы пад дружныя воплескі залы ўручаюцца жывыя кветкі і падарунак.

Мастацкая сустрэча майстроў сцэны памежжа адкрылася выступленнем хору гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Задушэўна і міла гучаць песні аб роднай зямлі беларусаў, пра каліну-маліну і, канешне, аб каханні. Цікавыя і прыгожыя нумары прадставілі ўдзячным гледачам і іншыя калектывы гасцей: фальклорны гурт "Арэшкі" з Арэшкава (кіраўнік Надзея Ґрушэўская), вакальныя групы "Чыжаўляне" з Чыжоў і "Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў (кіраўнікі Міхаіл Аўхіменя і Янка Бурнос), фальклорныя ансамблі "Рэчанька" з Козлікаў (Аля Дубэц) і "Рассяваны Гарадок" з Гарадка (Сцяпан Копа), маладзёжны хор з Беластока "Каласкі" пад кіраўніцтвам зноў жа спадарыні Алі Дубэц і іншыя.

Яшчэ колькі слоў пра выступленні беларусаў з Беласточчыны. Хараша і ўзнёсла спявалі яны аб няпростай сялянскай долі, прыгажосці роднага краю, радасці кахання і горычы расстання, іншых людскіх пачуццях. Удала ўпрыгожвалі праграму нумары, прасякнутыя народным гумарам. Асабліва вызначыўся выканаўчым майстэрствам хор "Васілёчкі" з горада Бельск-Падляшскі (мастацкі кіраўнік Уладзімір Захарчук). Калі слухаеш гэты калектыў, то міжволі параўноўваеш яго з Акадэмічным хорам імя Цітовіча пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага. Добрае ўражанне выклікалі "Хлопцы-рыбалоўцы". І хоць з Янкам Бурносам спявалі толькі чатыры дарослыя мужчыны і пачынаючы спявак-хлопчык, яны падтрымалі цудоўным галасам сваю аднавяскоўку-імяніннiцу Валянціну Ласкевіч. А мне прыгадаліся незабыўныя канцэрты рыбалоўцаў у мінулыя гады на Гродзеншчыне, у прыватнасці, у Іўі, а таксама шчырае спатканне з імі ўлетку 1989 года на рацэ Нараў.

Змястоўна і па-майстэрску, з уласцівым для іх імпэтам выступілі польскія калектывы Прынямоння. Не ўступалі беластоцкім сябрам у запале і артыстызме ансамбль песні і танца "Хабры", хор і аркестр "Ютшэнка", харавыя гурты і вакальныя групы "Прамень", "Радунскія салоўкі", "Струбнічанка" (ад назвы мастоўскай вёскі Струбніца) і іншыя. Узнёсла гучалі польскія народныя песні, іх дапаўнялі танцы. Як беларусы пра Нёман, гэтак жа мілагучна спявалі палякі са Шчучына пад кіраўніцтвам Эдварда Гайдукевіча песню пра Віслу — любую і мудрую раку. Застаецца заўважыць, што разам з Валянцінай Ласкевіч бездакорна, з добрым мастацкім густам вёў канцэртную праграму кіраўнік польскага тэатра ў Гародні Уладзіслаў Сілкін.

Апошнім па ліку, але змястоўным і дасціпным было выступленне на фестывалі эстраднага калектыву "Ас" з Беластока (мастацкі кіраўнік Славамір Трафімчук). А напрыканцы сустрэчы на сцэну і падмосткі выйшлі ўсе ўдзельнікі захапляючага фестыну. І, здаецца, над усім Гродна палілася натхняючая песня на словы Канстанцыі Буйло "Люблю наш край, старонку гэту..." У чароўным захапленні ўзнялася ўся зала, дружна падтрымаўшы спевакоў народаў-братоў.

Фестываль праведзены на сродкі Гродзенскага аблвыканкома пры актыўнай падтрымцы польскай і беларускай грамадскасці памежжа. На канцэрце прысутнічалі Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка, намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкома Марыя Бірукова (яна ж з'яўлялася старшынёй аргкамітэты па падрыхтоўцы і правядзенню фестывалю), афіцыйныя прадстаўнікі Польшчы і ўладных структур Беларусі.

Наступны фестываль павінен адбыцца ў будучым годзе ў Беластоку. Хай і надалей песня яднае людзей і нясе ім радасць і дабро.

Алесь ЖАЛКОЎСКІ.

# ШЛЯХ ДА МІЦКЕВІЧА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

апошняга слова, не адрываючыся: так бліскуча яе склаў Язэп Янушкевіч. Ледзьве з'явіўшыся ў продажы, гэтая кніга набыла статус бібліяграфічнага рарытэта. У ім упершыню надрукаваны выбітны пераклад Пятра Бітэля.

Прэзентацыя юбілейнага выдання адбылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, які не застаўся ў баку ад урачыстасцяў з нагоды дня нараджэння Міцкевіча, адзначыўшы яго натуральным, але неардынарным чынам — юбілейнай экспазіцыяй "Пан Тадэвуш". Выстава аднаго твора, ілюстрацыі Васіля Шаранговіча. (Канцэпцыя І. Зварыка, мастакі А. Петрыканец, А. Гуськоў).

Зайшоўшы ў залу і павітаўшыся з Паэтам, чый партрэт адразу прыцягвае ўвагу (партрэт адмысловы: спачатку здаецца, што гэта старадаўні дагератып, толькі павялічаны ў памерах, але на самай справе партрэт гэты шоўкам тканы сто гадоў таму), трапляеш пад абаянне рэчаў Міцкевічавай пары. І гэта не халаднаватыя калекцыі, але добра прадуманыя кампазіцыі ў духу "Пана Тадэвуша". Інтэр'ер не проста мэбля эпохі. І люстэрка, і крэслы, і партрэт Касцюшкі ў парэпаным багеце, і народны дзявочы строй, пакрыты вянчальным вэлюмам, на крэсле (быццам чакае сваю гаспадыню) падказваюць: гэты пакой належыць канкрэтным асобам. Каму ж? Зосі і Тадэвушу. Спачатку — Тадэвушу, а потым — Зосі, калі малады пан выехаў даставаць навукі ў Вільню. Прадметы ў вітрынах выклікаюць адпаведныя асацыяцыі. Старадаўняя багаслоўская кніга на лаціне, ружанец ксяндза-пілігрыма (бернардзіна, канечне), прадметы ўбрання святара нагадваюць, што касцёл у жыцці паэта і ўсёй эміграцыі былой Рэчы Паспалітай адыгрываў найістотнейшую ролю: адганяў спакусу роспачы, збіраў аслабелыя сілы і падтрымліваў веру — "Айчына ўваскрэсне!"

Не ведаю, ці так было задумана, ці так атрымалася незнарок, але вельмі дарэчы партрэт Марыі-Луізы, жонкі Банапарта (частка інтэр'ернай кампазіцыі) суседнічае з вітрынаю, дзе маляўніча пакладзены кнігі, шляхецкі пояс са Слуцкай персіярні, чарніліца з пяром, шыкоўная шабля ды бронзавыя фігуркі Напалеона. Разумею, так перададзены настрой шляхты напярэдадні вайны 1812 года. Вядома, што значная яе частка звязвала аднаўленне незалежнасці Кароны і Княства з паходам Напалеона. Пра тое мы чытаем і ў паэме. Гэтыя людзі, да якіх належаў і Міцкевіч, і героі яго паэмы бачылі сваю Айчыну сярод тых краін, якія ўставалі на шлях да найкаштоўных сацыяльных каштоўнасцяў — правоў чалавека і свабоды.

**А вернем славу — вернем**
**і дзяржаву,**
**Бо з парастка пачатак**
**дрэва волі.**
**Вось толькі як шкада ўсім**
**нам да болю,**
**Што час ідзе,.. —**

чытаем мы радкі з паэмы. Такія "старонкі з кнігі" знаходзяцца ва ўсіх вітрынах. Дзякуем, чытаем далей:

**...Кажучы між намі,**
**Дзе дзіркі беднасці**
**прыкрыты галунамі**
**І дзе паліцыя — гарантыя**
**спакою,**
**Свабодзе там, казаў той,**
**памахай рукою.**

О, трэба чытаць і перачытваць класічны твор! Знаходзім у вітрынах іншыя сюжэты і матывы: чароўнай Тэлімены, застолляў, наездаў, палявання, цырымоніі падавання кавы...

Знаходзім на выставе і найцікавейшыя кніжныя выданні ад XIX стагоддзя і да найноўшых як на мове арыгінала, так і ў перакладах. Гэтыя кнігі — з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Сярод выстаўленых кніг прыцягваюць увагу крытычныя і даследчыцкія працы. Напрыклад, "Пан Тадэвуш" і раманы Вальтэра Скота", ці "Гумар у паэме "Пан Тадэвуш", ці яшчэ "Разбор паэмы ў пытаннях і адказах. Дапаможнік для навучэнцаў". Гэта ўсё па-польску. Але ж і нашым вучням падобныя працы пачытаць было б вельмі карысна.

Усё вышэйапісанае — толькі прадмова да галоўнага. Сэрца выставы, душа яе — акварэлі, арыгінальныя ілюстрацыі, выкананыя народным мастаком Беларусі Васілём Шаранговічам. Тыя самыя, што ўвайшлі ў юбілейныя выданні "Пана Тадэвуша". Дванаццацічастковым, з каштоўнейшых пласцінак поясам выцягнуліся гэтыя творы ўздоўж вертыкальнай прасторы залы. Нішто не замінае да іх падысці, як заўгодна блізка ці на адлегласці разгледзець іх, палюбавацца. Вобразы герояў паэмы, вобразы прыроды, дэталі ўбрання, багаты прадметны свет, псіхалагічны настрой персанажаў — многае перададзена ў гэтых работах. Акварэльная тэхніка пісьма патрабуе найвышэйшага майстэрства. Тут, як у фрэсках, фарбу кладзеш адразу, нічога нельга папраўляць. Дый нічога не трэба папраўляць! Усё тут дакладна, выразна, тэмпераментна і лірычна, мякка і густоўна.

Частка работ была створана на пачатку 80-х, да выдання "Пана Тадэвуша" 1985 года ў перакладзе Язэпа Семяжона (цудоўны пераклад і цудоўнае выданне, дададзім ад сябе). І вось тады афіцыйны прадстаўнік Польшчы прапанаваў сп-ру Шаранговічу прадаць творы ў ПНР не проста за добрыя, а за вельмі добрыя грошы. Мастак не захацеў, пакінуў іх у сябе. І дзякуй яму! Вось мы цешымся з іх на выставе і ў новай кнізе. Добрая мая прыяцелька расказала наступнае. Даўно не прыступала яна да споведзі. Споведзь — псіхалагічна складаны чын, не да кожнага святара прымусіш сябе ісці, каб раскрыць непрыемныя таямніцы. Часам перашкаджае недарэчная драбяза, часам — аблічча... І вось убачыла яна аркуш з-выявай аднаго з персанажаў "Пана Тадэвуша" — ксяндза Робака, такім, як яго прадставіў мастак (Шаранговіч). А ў хуткім часе ў Чырвоным касцёле ў Мінску заўважыла ксяндза, вельмі падобнага да таго, на партрэце, можа, трохі маладзейшага. Да яго і пайшла спавядацца. І так ён добра ёй нарадзіў, што быццам святлом нейкім асвяцілася ў душы.

Святло на выставе пралівае стары залачоны кандэлябр з белымі свечкамі, што стаіць у сярэдзіне залы. І пралівае ён святло на дакументы з архіва літаратуры і мастацтва, дакументы, якія раскрываюць драматычную гісторыю першага перакладу "Пана Тадэвуша" на беларускую мову. Гэта асобны сюжэт, звязаны з імёнамі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Браніслава Эпімах-Шыпілы, з дзейнасцю Цэнзурнага камітэта і суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца".

У асобнай "рэнесанснай" вітрыне, пад добраслаўленнем абраза Заступніцы Прачыстай, "што ў Вострай Браме свеціцца пры набажэнствах", разгорнуты новенькі асобнік "Пана Тадэвуша" — наймудрэйшы экспанат на выставе. Шкада, канешне, што кніга гэта імгненна знікае з крамаў. Але, з іншага боку, гэта й добра: яна патрэбна, на яе ёсць попыт, ідзе яна і пад нашыя "стрэхі". Дарэчы, паралельна з гэтым шыкоўным выданнем выпушчана больш сціплая кніжачка ў серыі "Школьная бібліятэка" — Адам Міцкевіч. "Пан Тадэвуш" (пераклад Я. Семяжона).

Будзем чытаць!

Зьміцер КАЛІСТРА.

НА ЗДЫМКУ: акварэлі Васіля ШАРАНГОВІЧА — ілюстрацыі да кнігі Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш".
Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.





## *КОЛАСАЗНАЎСТВА*

# УСЁ Ж — ЛЕПШ ПАРЫЖА

Браніслаў Зубкоўскі доўгі час займаецца коласазнаўствам. Працуючы настаўнікам і дырэктарам школы ў Пухавіцкім раёне, выходзіў, выездзіў, абышоў многія мясціны, тыя вёсачкі, што звязаны з лёсам і творчасцю Якуба Коласа. А найперш гэта Загібелька, Вусце, Талька, Падбярэжжа, Беразянка, Балачанка. Якраз у гэтых вёсачках летаваў пясняр разам са сваёй сям'ёю. І, безумоўна, час яшчэ захаваў сведкаў тых далёкіх падзей. Браніслаў Зубкоўскі знайшоў іх родзічаў, дэталёва распытаў, уласнымі нагамі абышоў літаральна кожную сцяжынку, па якой хадзіў Якуб Колас. Вынік такой краязнаўча-шукальніцкай працы — многія грунтоўныя публікацыі на старонках газет "Пухавіцкія навіны", "Мінская праўда", "Белорусская нива", "Літаратура і мастацтва" ды і шэрагу іншых выданняў.

Але паралельна з гэтым Браніслаў Зубкоўскі зрабіў яшчэ адну вялікую працу. Настаўнік, краязнаўца, маючы педагагічны талент, валодаючы літаратурна-мастацкімі здольнасцямі, выдатна ведаючы дакументальны матэрыял, напісаў цэлы шэраг апавяданняў на тэму: "Якуб Колас і дзеці". Напісаў, маючы на ўвазе чытача ў першую чаргу дзіцячага. І прытым — выключна на пухавіцкім матэрыяле.

Зараз, сабраныя разам, усе апавяданні ўвайшлі ў кнігу Браніслава Зубкоўскага "Чаму Загібелька лепш Парыжа", якая літаральна зусім нядаўна пабачыла свет у Курску. Так, у Расіі. Праўда, на беларускай мове. У гэтым факце ёсць нешта сімвалічнае. Добра вядомая асабістая повязь Якуба Коласа з Курскам. Ды і ў творчасці народнага песняра застаўся "курскі след".

Чым прыцягваюць да сябе апавяданні Браніслава Зубкоўскага? Колас паўстае чалавекам блізкім, чулым у стаўленні да дзяцей. Пісьменнік паказаны сапраўды народным педагогам. Ён бачыць, адчувае дзіцячыя перажыванні, ідзе на многія кампрамісы, каторыя часам неўласцівыя, незразумелыя даросламу чалавеку. Часам сюжэты апавяданняў досыць няхітрыя, не вызначаюцца асаблівай мудрагелістай канструкцыяй. Вось і ключавы ў кнізе твор — "Чаму Загібелька лепш Парыжа" — просты, ілюстрацыйны... Але ж праз галоўнага героя апавядання Міколку Браніслаў Зубкоўскі здолеў расказаць пра рэчы даволі сур'ёзныя, пра тое, які клопат мусіў адрываць пісьменніка ў Парыж, на Сусветны кангрэс абароны культуры. І ўжо радкі з верша "Загібелька" становяцца надзвычай блізкімі, цёплымі:

**Калі агледзіш хвайнякі**  
**І гэты кут пазнаеш бліжай,**  
**Збіраючы баравікі, —**  
**То вывад я раблю такі:**  
**Мне Загібелька лепш Парыжа.**

З цікавасцю чытаюцца літаральна ўсе творы, сабраныя ў кнізе Браніслава Зубкоўскага: "Перакормленая рыба", "Тры жаданні добрай чараўніцы", "Як баравікі на пнях выраслі", "Крынічка" — апавяданні, якія вучаць любові. Да прыроды, да навакольных лясоў, рэк, да навакольнага свету. Нязмушанымі коласаўскімі ўрокамі паўстаюць парады пісьменніка дзецям. У "Крынічцы" Якуб Колас вучыць дзетвару, як дапамагчы да жыцця, да людзей крынічцы прабіцца. Праўда, дзеля гэтага трэба папрацаваць. Што дзеці, прыслухоўваючыся да кожнай парады дзядзькі Коласа, і робяць.

Творы Браніслава Зубкоўскага — нязмушанае выхаванне юнага чытача. Духоўнае, экалагічнае... Выхаванне любові да роднай старонкі. З асаблівай чуйнасцю, павагай да прыроды напісана апавяданне "Лясны мураш загадаў". Хіба магла душа Коласа перанесці такое?.. "Хворую Ганначку пасадзілі ў машыну, побач з маці. Але да гравейкі не даехалі. Зараз легкавічок забуксаваў, глыбока засеўшы ў калдобінах. Тузаецца сюды-туды, як у пастцы. Выскачыў шафёр з кабіны, выхапіў з багажніка сякеру.

— Ты куды? — пытаецца Колас.

— А ссяку сасонку. Колы падважыць. Ды і галля спатрэбіцца нямала, каб загаціць гэтыя праклятыя ямы.

Дзядзька Колас выйшаў з машыны.

— Пачакай, — сказаў ён. — Тут непадалёку ляснік жыве. Пайду гукну яго хлопцаў. З імі як бач выцягнем. А сасоннічак няхай расце... — Адышоўся да ўзлеску і яшчэ раз строга загадаў шафёру; — Сасонак не чапай. Ніводнай.

Праз якой паўгадзіны вярнуўся Колас з хлопцамі. І што бачыць? Машына ўжо на цвёрдай дарозе стаіць.

— Дазвольце ехаць! — зухавата ўзяў пад казырок шафёр.

Дзядзька Колас зірнуў на дарогу, і твар яго пацямнеў: глыбокія калдобіны былі засыпаны хвойнай ігліцай з мурашніка.

— Я ўвесь мурашыны стажок сюды перацягнуў. Можа, вёдраў якіх пятнаццаць, — расхваліўся вясёлы шафёр. — Вунь з таго сасоннічку..."

Што было далей, што загадаў зрабіць лясны мураш, — пра гэта, думаю, вы здагадаліся.

Ці ёсць у апавяданнях Браніслава Зубкоўскага мастацкі вымысел? Наколькі яны дакументальныя ў сваёй аснове? Безумоўна, аўтар кнігі "Чаму Загібелька лепш Парыжа" стварыў свае расповяды, карыстаючыся дакументальнай, жывой, чалавечай памяццю. Але разам з тым — і гэта відавочна — Браніслаў Зубкоўскі нешта дамысливае, уводзіць пэўныя дэталі, пэўныя мастацкія драбнічкі, пра існаванне якіх можна толькі здагадвацца. І ўсё ж пры гэтым не губляецца верагоднасць, магчымы характар развіцця падзей.

Кніга ўражвае багаццем, насычанасцю персанажамі. Мы сустракаемся з дзесяткамі людзей, якія ведалі Коласа, былі знаёмыя з ім. Тым самым апавяданні, сабраныя ў зборніку "Чаму Загібелька лепш Парыжа", носяць прыкметны краязнаўчы характар. У кнізе будзе, безумоўна, і спецыяльны чытач. Той, каго цікавіць кожная драбніца, звязаная з жыццём, дзейнасцю Якуба Коласа.

Захапляе мова апавяданняў Браніслава Зубкоўскага. Яркія параўнанні, вобразныя, да месца ўжытыя адмеціны мясцовых гаворак. Адчувальна па ўсім, што аўтар уважліва слухаў жыхароў пухавіцкіх коласаўскіх вёсачак. І гэтая высокая падшутрохоўвае да наступных развагі. Браніслаў Зубкоўскі павінен займацца і мастацкай апрацоўкай этнаграфічна-фальклорнага пухавіцкага матэрыялу. Падставы ўсе на тое ў літаратара ёсць. І праца тая для нашых наступнікаў надзвычай патрэбная.

Некалькі слоў пра тое, пра што нельга не сказаць. Кніга не з'явілася б на свет без фінансавай падтрымкі Пухавіцкай кардоннай фабрыкі, калектыў якой узначальвае Пётр Есіпёнак. Апладуючы двухтысячны тыраж выдання, рабочыя, якія жывуць у Светлым Бары, выканалі нялёгкую духоўную місію, паклаўшы на свае плечы сапраўды цяжар. І гэта ў сённяшнім часе сапраўды ўчынак. Магчыма, услед за курскім выданнем увагу на пісьменніцкую працу Браніслава Зубкоўскага звернуць дзяржаўныя выдавецтвы Беларусі. Настаўнік, дырэктар Светлаборскай сярэдняй школы выступае ў друку і як таленавіты публіцыст, дасведчаны літаратурны крытык. І мо з часам пабачыць свет кніга рэцэнзій, літаратурна-крытычных артыкулаў Браніслава Зубкоўскага.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## *ЗА ШТО ЛЮБЯЦЬ ДЗЯДЗЬКУ УЛАДЗІКА*

# СЭРЦА ЛЯЛЕЧНАГА ТЭАТРА БЕЛАРУСІ



Гэтаму чалавеку я зайздрошчу. Чаму? Стары з гарачым сэрцам, прыветнай усмешкай, вялікім пачуццём гумару — маладзейшы духам шмат за каго з пакалення дваццацігадовых!

Маё першае знаёмства з цудоўным артыстам Уладзіславам Уласавым адбылося ў 1980 годзе, калі мне было столькі год, колькі пальцаў на руцэ... Больш сур'ёзна пазнаёміліся ў 1995 годзе дзякуючы вядомаму рэжысёру-лялечніку Сяргею Юркевічу на прэзентацыі тэатра "Кураж".

...Смаленск. Сакавік 1945 года. Ішла вайна. Толькі што будучаму артысту споўнілася 16 год, і вось ён яркім сонечным днём крочыў па вуліцах Смаленска да Дома культуры на конкурс у народны хор. На жаль, перамагчы ў конкурсе не давялося... Камісія параіла якісьці час не займацца вакальным мастацтвам: пераходны ўзрост, мутацыя голасу. Падышоў таварыш, стаў супакойваць "няўдачніка" і прапанаваў часова папрацаваць у абласным тэатры лялек машыністам сцэны. Прапанова была прынята.

Уладзіславу, які назіраў за работай артыстаў-лялечнікаў, хацелася зразумець, якім чынам акцёр можа "ажывіць" мёртвую матэрыю, як у руках артыста лялька становіцца "жывым персанажам". Вечарамі, калі ў тэатры нікога не было (а тэатр у той час займаў два пакоі), задавальняў сваю цікаўнасць, спрабуючы спасцігнуць прафесію...

Нярэдка прафесійны лёс людзей вызначае выпадак. Выпадак дапамог і Уладзіславу Пятровічу. Захварэла артыстка, выканаўца ролі Дзеда ў адной з рускіх казак. Спектакль нельга было адмяніць. Схільнасць юнака да акцёрскага мастацтва была заўважана ў трупе старэйшымі таварышамі. Спыталіся, ці здолее ён сыграць ролю. "Здолею", — адказаў, не раздумваючы, Уладзіслаў.

Менавіта гэты выпадак паклаў пачатак акцёрскай дзейнасці Уласава. "І пачалося, і закруцілася, і пайшло, і паехала", — смяецца Уладзіслаў Пятровіч. Спачатку працаваў з пальчатковымі лялькамі, потым з трысняговымі. У асноўным вучыўся сам. З 1946 па 1949 год на фарміраванне і станаўленне маладога артыста зрабіла вялікі ўплыў рэжысёр Наталля Чарнова, якая арганізавала пры тэатры прафесійную студыю з прыцягненнем педагогаў-спецыялістаў па сцэнічнай мове, акцёрскаму майстэрству, пластыцы, гісторыі тэатра.

З 1949 года — служба на флоце. "Спатрэбіўся мой голас, — згадвае Уладзіслаў Пятровіч. — Чытанне вершаў, пароды, перайманне людзей, жывёл, музычных інструментаў — усё гэта садзейнічала фарміраванню майго моўнага апарату, што прыдалося мне потым у працы". Працаваць даводзілася шмат. Некаторыя мініяцюры і пароды складаў сам, шмат якія браў з айчыннай класікі. Скончыўшы службу, вярнуўся ў родны тэатр уже сфарміраваным артыстам, са сваёй канцэртнай праграмай, якую горача прынялі таварышы па рабоце. І зноў выпадак...

На гастролях у Брэсце давядаўся пра набор у трупу Дзяржаўнага тэатра лялек БССР. Вяртаючыся з гастроляў, заехаў у Мінск, сустрэўся з галоўным рэжысёрам А. Аркадзьевым. З 1956 года Уласаў — артыст Дзяржаўнага тэатра лялек БССР, новы пункт адліку ў творчым лёсе чалавека.

Менавіта ў Дзяржаўным тэатры лялек БССР раскрываецца шматграннасць, шматпланавасць, унікальнасць творчай асобы артыста. Для Уласава амплуа не існуе. Яго рэпертуарны багаж шырокі і разнастайны: ад лірычнага героя да казачнай вострахарактарнай істоты.

З душэўнай цеплынёй успамінае Уладзіслаў Пятровіч пра такога персанажа, як Труфальдзіна (першы спектакль для дарослых) у спектаклі "Кароль-алень" Я. Сляранскага (па К. Гоцы, 1958 год). Успамінае, як цяжка было іграць старых. Зусім натуральна, што з узростам усё цяжэй становіцца змяняць голас (а гэта неабходна, бо акцёр-лялечнік падпарадкоўваецца масцы лялькі), таму неабходна шукаць новыя фарбы, нюансы, не паўтарацца ў работах. У Уласава ў любым спектаклі можна пазнаць, але ніколі не скажаце, што ён аднолькавы ў ствараемых ім сцэнічных характарах. Яму ўласцівае выдатнае адчуванне лялькі, ён дакладна трапляе ў "маску лялькі".

"Даваяраю сваёй фантазіі, унутранаму бачанню руху лялькі ў прасторы. Гэта набываецца з вопытам", — гаворыць Уладзіслаў Пятровіч.

Дастаткова нагадаць створаны ім характар мядзведзя ў маршакаўскім "Церамку", і становіцца зразумелым, якая цікавая і багатая фантазія артыста...

Ён ніколі не абыходзіць увагай ніводнага пачаткоўца — дапаможа і словам, і справай. Ніколі не лічыцца з асабістым часам, калі нехта з моладзі папкліча яго на дапамогу. Уважлівы, тактоўны са сваімі маладзейшымі калегамі. У яго шмат вучняў, якія, скончыўшы Беларускую акадэмію мастацтваў, працуюць у тэатрах лялек рэспублікі. Усе яны з удзячнасцю ўспамінаюць свайго настаўніка...

Нягледзячы на свой узрост, акцёр іграе ў многіх спектаклях тэатра — таких, як "Боская камедыя" І. Штока, "Майстар і Маргарыта" паводле М. Булгакава, "Сымон-музыка" паводле Я. Коласа.

Высокая прафесійнасць артыста неаднаразова пацвярджалася на многіх фестывалях тэатраў лялек Прыбалтыкі і Беларусі дыпломамі, Ганаровымі граматамі і каштоўнымі падарункамі. Яшчэ 30 год таму, у 1969 годзе, урад нашай рэспублікі надаў У. Уласаву ганаровае званне заслужанага артыста БССР. У 1978 годзе ён стаў лаўрэатам Міжнароднага фестывалю тэатраў лялек у горадзе Варна (Балгарыя) "Залаты дэльфін" за ролю Уладара ў спектаклі "Арэшак" Р. Аляксандравай...

Народная любімца Уладзіслава Уласава гледачы клічуць па-рознаму: дзядзька Уладзік, Уладзіслаў Пятровіч, Лепарэла, Швейк, знакаміты Уласаў. Шмат хто з гледачоў ідзе ў Дзяржаўны тэатр лялек спецыяльна "на Уласава". Народ любіць свайго артыста, які чамусьці не мае звання народнага (а можа, на паперы яно таленту і не патрэбна)...

Калі вы яшчэ не пазнаёміліся з дзядзькам Уладзікам — то прыходзьце ў Дзяржаўны тэатр лялек Беларусі! Калі вы ўбачыце дабрадушнага іранізатара, старога весялуна з вялікай густой сівой барадою, ведайце: гэта ён, Уладзіслаў Пятровіч Уласаў — сэрца лялечнага тэатра Беларусі!

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ.**



# НА МОРЫ КАЛЯ МІНСКА — ВОСЕНЬ







**Беларуская восень у разгары, ва ўсёй сваёй традыцыйнай красе. Хаця ясныя цёплыя дні чаргуюцца з пахмурнымі, дрэвы, кусты гараць усімі колерамі вясёлкі. І такія прыгожыя, незвычайныя спалучэнні фарбаў і адценняў утвараюцца, што вачэй не адарваць.**

**У гэтую пару года, відаць, самую ласкавую, вельмі прыемна вырвацца з гарадскога тлуму на прыроду. З Мінска трапіць на яе проста: ва ўсе бакі бегаюць электрычкі. Мы выбралі маладзечанскі напрамак — і праз пяць прыпынкаў былі на Мінскім моры. Цішыня незвычайная. Яна парушаецца хіба што крыкамі белакрылых чаек ды пошумам хваляў. Яны б'юцца аб бераг, нібы хочуць вырвацца з яго, і зноў, абяссіленыя, адкатваюцца, як на сапраўдным моры. Прастор. Раздолле. Толькі пасярод воднай роўнядзі калыхаецца паруснік.**

**Мора — любімае месца адпачынку мінчан. Яно штучнае, адкрыта больш як сорак гадоў таму. За гэты час берагі, дзе не было лесу, зараслі ім. А чатыры ракі — Свіслач, Ратамка, Вяча, Чарняўка, у вусці якіх зроблена вадасховішча, — далі яму ваду, а самі сталі яго дном. Даўжыня вадасховішча дзесяць кіламетраў, шырыня — чатыры з паловай. Плошча больш як трыццаць адзін квадратны кіламетр. Раздолле тут рыбакам, спартсменам, аматарам пакупацца, пазагараць, паплаваць на лодцы...**

**А мы сёння прыехалі палюбавацца восенню. Дзень стаяў слаўны. Прайшлі берагам, лесам. Захапляліся казачнымі мясцінамі, некаторыя фатаграфавалі. Прапануем чытачам некалькі здымкаў.**

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

1998-мы – ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

## КАРЭЛІЦКІЯ ЧЫТАННІ

"Карэліцкая зямля ў часы Адама Міцкевіча". Такой была тэма чарговых краязнаўчых чытанняў у Карэлічах, якія прысвячаліся 200-годдзю з дня нараджэння знакамітага сына Навагрудчыны і вялікага польскага паэта. Натуральна, што ў дакладах гаварылася не толькі пра слыннага юбіляра, а і пра яго блізкіх сяброў: Яна Чачота, Ігната Дамейку, Томаша Зана і іншых. На сустрэчы выступілі прафесары Збігнеў Вуйцік і Аляксандр Баршчэўскі (Варшава), нашчадак Ігната Дамейкі Мар'юш Германовіч (Францыя). Ад беларускіх навукоўцаў і даследчыкаў творчасці Вешчуна цікавыя паведамленні зрабілі народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны прафесар Адам Мальдзіс, кандыдаты навук Ірына Багдановіч і Уладзімір Навумовіч (абодва з Мінска), аспірантка Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Святлана Славік, навуковы супрацоўнік Карэліцкага краязнаўчага музея Святлана Кошур і вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Зміцер Яцкевіч.

Гаворачы пра талент Адама Міцкевіча, выступаючыя падкрэслівалі, што рамантызм паэта арганічна спалучаўся з патрыятызмам і грамадзянскасцю, абапіраўся на высокую духоўнасць. І нашы, і польскія даследчыкі рабілі акцэнт на моўных крыніцах, у тым ліку і навагрудскай старонкі, што жывілі творчасць пісьменніка. Разам з тым адзначаўся прыкметны ўплыў юбіляра на грамадства не толькі сваім літаратурным талентам, а і грамадска-палітычнай дзейнасцю.

Да канферэнцыі былі прымеркаваны прэзентацыя кнігі "Філаматы і філарэты", а таксама фотадакументальная выстава "Я маю край, радзіму дум сваіх", якая прысвячалася жыццю і творчасці вялікага паэта. Удзельнікі сустрэчы зрабілі паездку па Міцкевічавых мясцінах Карэліччыны.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**



**Дзівосы асенняга лесу.**

## ЗВАРОТ

### УДЗЕЛЬНІКАЎ БЕЛАРУСКА-БРЫТАНСКАГА СІМПОЗІУМА «ЭТЫЧНЫЯ ПЫТАННІ ВЫКАРЫСТАННЯ ЖЫВЁЛІН У НАВУЧАЛЬНАЙ ПРАЦЫ І НАВУКОВЫХ ДАСЛЕДАВАННЯХ»

16—18 кастрычніка 1997 года па ініцыятыве Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута пры падтрымцы Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, Еўрапейскага Парламента, Пасольства Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь і Сусветнага таварыства аховы жывёлін адбыўся міжнародны сімпозіум "Этычныя пытанні выкарыстання жывёлін у навучальнай працы і навуковых даследаваннях". У сімпозіуме прынялі ўдзел вучоныя, выкладчыкі і студэнты з Беларусі, Расіі, Вялікабрытаніі і Швецыі.

У ходзе дакладаў і дыскусій адзначана, што ў арганізацыі вучэбнага працэсу і навуковых даследаванняў адбыліся пазітыўныя змены, якія без урону для адукацыі і навукі прывялі да зніжэння колькасці выкарыстоўваемых жывёлін, паляпшэння іх догляду. Аднак існуючыя перамены ацэньваюцца толькі як тэндэнцыя, якая не мае цвёрдай прававой і арганізацыйнай асновы. У сувязі з гэтым удзельнікі сімпозіума звяртаюцца да органаў улады, кіраўнікоў навуковых і вучэбных арганізацый, да вучоных, выкладчыкаў і студэнтаў з заклікам аб гуманных адносінах да жывёл, што з'яўляюцца аб'ектам медыцынскіх і біялагічных даследаванняў.

Ідэі гуманізму павінны падмацоўвацца адпаведнымі законамі і правіламі. Неабходна распрацаваць сістэму ліцэнзавання, кантролю і ацэнкі эксперыментальнай работы з жывёламі; строга захоўваць існуючыя цяпер правілы працы з эксперыментальнымі жывёламі; звесці да мінімуму пакуты і боль пры абыходжанні з жывёламі і правядзенні працэдур; навукова абгрунтавана планаваць колькасць жывёл, неабходную для атрымання дакладных вынікаў у эксперыментальных даследаваннях, і выкарыстоўваць пры гэтым лінейных жывёл; удасканальваць навучальны працэс, замяняючы асобныя эксперыменты in vivo матэматычным мадэляваннем, а таксама прымяненнем біялагічных мадэлей in vitro шырокім выкарыстаннем вучэбных фільмаў і віртуальных камп'ютэрных праграм.

Удзельнікі сімпозіума заклікаюць да захоўвання Еўрапейскай канвенцыі па абароне жывёл, якія выкарыстоўваюцца для эксперыментальных і іншых навуковых мэт.

## БІБЛІЯТЭКУ ТРЭБА АХОЎВАЦЬ ПА-СУЧАСНАМУ

У Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэцы ўстаноўлена сістэма аховы кніжнага фонду бібліятэкі ад несанкцыянаванага вынасу дакументаў. Яна наладжана такім чынам, што спыняе спробу ўкрасці кнігу ці вынесці яе, проста забыўшыся. Пры гэтым сістэма дазваляе спакойна выносіць кнігі, зарэгістраваныя бібліятэкарам.

Эфект сістэмы дасягаецца тым, што ўсе кнігі, прызначаныя для свабоднага доступу, папярэдне "намагнічваюцца". На выхадзе з бібліятэкі ўмацаваны спецыяльныя стойкі-антэны, забяспечаныя канструкцыяй сігналізацыі. Адначасова з рэгістрацыяй кнігавыдачы карыстальніку кнігі "размагнічваюцца" спецыяльным прыстасаваннем — дэактыватарам. Пасля вяртання кніг у бібліятэку яны зноў "намагнічваюцца". Усе бібліятэкі ў развітых краінах забяспечваюцца такімі сістэмамі аховы ў абавязковым парадку.

Аднак галоўны эфект сістэмы заключаецца не столькі ў ахове кніг ад крадзяжу, колькі ў магчымасці перавесці бібліятэку на больш зручны і дэмакратычны рэжым яе выкарыстання. Тады бібліятэка перастане закрываць у сховішчах і хаваць ад карыстальнікаў каштоўныя інфармацыйныя рэсурсы, а будзе старацца прадаставіць іх у свабоднае карыстанне, будучы ўпэўненай у іх захаванасці. Бібліятэкар пры гэтым перастае адыгрываць ролю вартаўніка пры кнігах, а пачынае выконваць свае прамыя абавязкі па прадастаўленні інфармацыі.

Гэтую сістэму ўпершыню ў Беларусі паставіла Беларускае прадстаўніцтва сусветна вядомай амерыканскай фірмы Checkpoint, якая спецыялізуецца на стварэнні і вытворчасці ахоўных сістэм для магазінаў і бібліятэк. Улічваючы, што гэта першая ў краіне ўстаноўка, фірма зрабіла Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэцы значную скідку ў цане.

**Вядома, што ў Беларусі сёння дзейнічаюць 11,5 тысячы бібліятэк розных відаў і маштабаў, і ўсе яны маюць патрэбу ў ахове. Беларускае прадстаўніцтва Checkpoint робіць першыя крокі на інфармацыйным рынку Беларусі і гатова супрацоўнічаць з бібліятэкамі па арганізацыі іх аховы на падставе новых тэхналогій.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1774.
Падпісана да друку 12. 10. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.